ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 20 (2578)

21 мая 1998 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 1500 рублёў.



## СВЯТА ПЕРАМОГІ

**Адыходзяць усё далей у гісторыю падзеі самай страшнай вайны XX стагоддзя. Але памяць аб тых, хто абараняў свабоду і незалежнасць Радзімы, жывая. 9 Мая з кветкамі да самых свяшчэнных месцаў беларускай зямлі, шчодра палітай крывёю абаронцаў, — да манументаў і абеліскаў, да салдацкіх магіл прыйшлі тысячы людзей. Прыйшлі, каб яшчэ раз сказаць дзякуй за гэты светлы майскі дзень, за яркае сонца і блакітнае неба, дзякуй за жыццё.**

**9 Мая — у 53-ю гадавіну Перамогі над фашысцкімі захопнікам ветэраны вайны зноў сабраліся разам, каб сустрэць сваё свята, каб яшчэ раз успомніць тых, хто не дажыў да гэтага дня. Ва ўрачыстым шэсці, якое прайшло па галоўнаму праспекту сталіцы, прынялі ўдзел кіраўнікі краіны, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і прадпрыемстваў, моладзь. Пад гукі ваенных маршаў святочная калона накіравалася ад Дома афіцэраў да Вечнага агню. Дзесяткі тысяч мінчан і гасцей сталіцы выйшлі вітаць пераможцаў. І як 53 гады назад, гэты дзень стаў агульным святам для ўсіх: і для тых, хто ішоў у калоне, і для тых, хто дарыў ім кветкі.**

**На плошчы Перамогі сталіцы прайшлі ўрачыстасці, прысвечаныя самаму свяшчэннаму святу нашага народа.**

**Мінутай маўчання ўшанавалі прысутныя памяць загінуўшых на палях баёў і памершых ад ран франтавікоў, партызан, падпольшчыкаў, усіх абаронцаў нашай зямлі і закатаваных акупантамі мірных жыхароў.**

**Звяртаючыся да прысутных, Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сказаў: "Мільёны безыменных герояў змагаліся і загінулі за лепшае мірнае жыццё на планеце. Мару аб ёй яны завяшчалі нам, сваім нашчадкам. І мы будзем верныя гэтаму запавету паўшых байцоў".**

**Урачыстасці з нагоды 53-й гадавіны Перамогі прайшлі ва ўсіх рэгіёнах нашай краіны. Вечарам у сталіцы і ў крэпасці-героі Брэсце прагучалі залпы святочнага салюта.**

**НА ЗДЫМКУ: шэсце ветэранаў па праспекту Ф. Скарыны ў Мінску.**

СТАРАДАЎНЯЕ ЧАЛАВЕЧАЕ ХОБІ

## АКАЖУ ДАПАМОГУ Ў ПОШУКАХ СКАРБАЎ

**Адрас Эдуарда Сырына падказала аб'ява ў газеце: "Збіраю інфармацыю і легенды аб скарбах, акажу дапамогу ў іх пошуку". Следам ішоў нумар тэлефона, па якому мы і пазванілі.**

**Размова аказалася нядрэнняй інфармацыяй да разваг пра адно з самых старадаўніх хобі чалавека.**

**ДА ГІСТОРЫІ ПЫТАННЯ**

Са скарбамі звязана многа павер'яў. Напрыклад, лічыцца, што яны бываюць добрымі і злымі. Гавораць, што ў былыя часы пры закопванні скарбаў прафесійны чараўнік усю ноч чытаў спецыяльныя нагаворы, прызначаныя, напрыклад, для таго, каб скарб адкапаць мог толькі той, хто яго закапаў. Згодна з павер'ямі, такі скарб можна было адкапаць, напрыклад, рукой нябожчыка.

Скарб — рэч загадкавая, людзям уласціва яго адухаўляваць і надаваць яму рысы жывых істот. Гавораць, што скарбы могуць хавацца ад таго, хто іх шукае. У вёсках любяць расказваць, як той, хто знайшоў замоўлены скарб, звар'яцеў ці, яшчэ горш, памёр. Праўда, усе сябры Эдуарда, якім пашчасціла хоць нешта знайсці, жывыя і здаровыя. А яшчэ бывае, што адзін шукае-шукае і нічога не знаходзіць. А другі капне лапатай у тым жа самым месцы і выкапае гаршчок з золатам.

Цікава, што ва ўсе часы ўзнікала праблема, як дзяліць знойдзены скарб. У сярэдневечны лёс скарбу і самога скарбашукальніка вырашала тое, ці самастойна быў знойдзены скарб, ці з дапамогай злых духаў. У Старажытным Рыме да хрыпаты спрачаліся, каму належыць скарб: таму, хто яго знайшоў, ці таму, на чыёй зямлі была зроблена знаходка. У царскай Расіі наконт гэтага ўжо не спрачаліся: калі скарб знойдзены на тваёй зямлі — ён твой, а калі на дзяржаўнай — будзь ласкавы аддаць яго ў казну. У Савецкім Саюзе да 25 працэнтаў кошту скарбу атрымліваў той, хто яго знайшоў, а ўсё астатняе ішло ў даход дзяржавы.

**ШТО ШУКАЮЦЬ!**

Усё шукаюць. Гавораць, што славутыя скарбы Напалеона пасля яго ўцёкаў з Беларусі сталі шукаць яшчэ да таго, як замерзла вада ў адбітку чаравіка апошняга салдата яго арміі. Нібыта сведкі ўказалі азярцо, дзе была патоплена славутая карэта. Яго асушылі і знайшлі на дне тры гарматныя ядры. Цікавасць да скарбаў Напалеона жывая ў народзе да гэтага часу, і, па словах Эдуарда, мясцовыя жыхары ахвотна паказваюць прыезджым, дзе гэты самы скарб закапаны, і практычна ў кожнай вёсцы ў тых мясцінах усе — ад нямоглага старога да хлапчука — з гатоўнасцю пакажуць "тое самае месца".

Ёсць і яшчэ адна катэгорыя скарбашукальнікаў. Гавораць, што ідэя "Пікніка на абочыне" братоў Стругацкіх была навеяна вельмі нефантастычнымі рэаліямі. Да 1968 года ў лясах пад Ленінградам стаяла ваенная тэхніка, валяліся снарады і зброя. А вялікія замініраваныя тэрыторыі з часоў вайны былі абгароджаны калючым дротам, і лезці туды рашаліся толькі самыя смелыя і адчайныя. Ды і пад Мінскам ігітральна да пачатку сямідзесятых можна было знайсці не толькі цэлую

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

УЛАДЗІМІР ПРАКАПЦОЎ УЗНАЧАЛІЎ ГАЛОЎНЫ МУЗЕЙ КРАІНЫ

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ — ЗНАЧЫЦЬ, ПЕРШЫ

***БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА.*** *Уладзімір Пракапцоў нарадзіўся ў 1953 годзе ў вёсцы на Гомельшчыне. Скончыў мастацка-графічны факультэт педагагічнага інстытута ў Віцебску. Кандыдат мастацтвазнаўства, член Беларускага саюза мастакоў, Беларускага саюза літаратурна-мастацкіх крытыкаў. Аўтар шматлікіх публікацый па мастацтвазнаўству. Зведаў адміністрацыйную працу: да сёлетняга красавіка ўзначальваў сектар культуры і друку ў апараце Савета Міністраў. Нядаўна прызначаны на пасаду дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь.*

Нашы сталыя чытачы, магчыма, памятаюць выступленні У. Пракапцова і ў "Голасе Радзімы". Сёння мы прадстаўляем Уладзіміра Іванавіча ў яго новай іпастасі — кіраўніка галоўнага музея краіны.

**— Уладзімір Іванавіч, мусіць, клопатная "гаспадарка" вам дасталася!**

— Ва ўсякім разе, не самая спакойная, хаця музей у разуменні многіх асацыіруецца ў першую чаргу з цішынёй, спакоем, нават нейкай маларухомасцю.

**— І пылам... Кажуць жа: "музейны пыл"...**

— Ну, пыл, дзе б ён ні быў, — гэта хутчэй ад неахайнасці. Сапраўдны музей тут ні пры чым.

А ўвогуле сёння мы маем галоўнае памяшканне ў Мінску, дзе захоўваецца каля 23 тысяч твораў жывапісу, скульптуры, графікі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і восем філіялаў у розных кутках Беларусі: Доммузей В. Ваньковіча і музей З. Азгура ў Мінску, комплексы ў Лошыцы, Гальшанах, Міры, музеі ў Раўбічах, В. Бялыніцкага-Бірулі — у Магілёве, галерэю ў вёсцы Гурыны на Мазыршчыне. Зараз якраз вывучаю стан спраў

**НА ЗДЫМКУ: Уладзімір ПРАКАПЦОЎ.**

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**



## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

НАРАДА Ў ПРЭЗІДЭНТА

### ПРАЕКТ ЗАКОНА «АБ ЗБРОІ»

**Як паведаміла прэс-служба кіраўніка беларускай дзяржавы, 12 мая 1998 года на нарадзе ў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі абмяркоўваўся праект Закона Рэспублікі Беларусь "Аб зброі". Ён распрацаваны па даручэнні Прэзідэнта і павінен рэгуляваць парадак абароту зброі, боепрыпасаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і дзейнасць упаўнаважаных дзяржаўных органаў па кантролі за гэтым парадкам. Такія меры распрацаваны ў мэтах узмацнення абароны жыцця, здароўя і правоў грамадзян, забеспячэння абароны дзяржаўных інтарэсаў.**

**У адпаведнасці з законапраектам, баявая зброя павінна быць выключна ўласнасцю дзяржавы, адзначае прэс-служба. Прадугледжваецца, што грамадзянам будзе захавана магчымасць карыстацца паляўнічай, спартыўнай зброяй, а таксама эфектыўнымі тыпамі зброі самаабароны, прымяненне якіх не прыводзіць да смерці або цяжкіх цялесных пашкоджанняў.**

**У ходзе нарады Прэзідэнт краіны даручыў разабрацца з рознымі прыватнымі ахоўнымі ведамствамі, якія дзейнічаюць на тэрыторыі нашай дзяржавы. Было адзначана, што ў Беларусі "дастаткова дзяржаўных сіл для забеспячэння бяспекі і аховы тых асоб, якія ў гэтым маюць патрэбу".**

ПРЫЗНАЧЭННІ

### ПРАДСТАЎНІКІ Ў МІЖНАРОДНЫХ АРГАНІЗАЦЫЯХ

**Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка падпісаў указ, згодна з якім Пётр Пракаповіч, старшыня праўлення Нацыянальнага банка, назначаецца кіраўніком ад Рэспублікі Беларусь Міжнароднага валютнага фонду; Мікалай Корбут, міністр фінансаў, — намеснікам кіраўніка ад Рэспублікі Беларусь Міжнароднага валютнага фонду; Генадзь Навіцкі, намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь, — кіраўніком ад Рэспублікі Беларусь Міжнароднага банка рэканструкцыі і развіцця, шматбаковага агенцтва па гарантыях інвестыцый і Міжнароднай фінансавай карпарацыі.**

"АДКРЫЦЦЁ ВАРОТ"



**У Мінску адбылася цырымонія "Адкрыцця варот" на тэрыторыі будучага будаўніцтва сінагогі і духоўнага яўрэйскага цэнтра, якую правялі прадстаўнікі цэнтральнай сінагогі ў Беларусі і мінскай яўрэйскай абшчыны. У новым будынку будзе размешчаны рэстаран, магазіны кашэрных прадуктаў і рэлігійных прыналежнасцей. У духоўным цэнтры чалавек любога ўзросту зможа вывучаць яўрэйскую гісторыю, мову і традыцыі.**

МАЛЕНЬКІ ЮБІЛЕЙ

### «МІНСКЭКСПО»

**Першае дзесяцігоддзе сваёй дзейнасці адзначыла выставачная кампанія "Мінскэкспо" — вядучы ў рэспубліцы цэнтр міжнародных дзелавых сустрэч і кантактаў.**

**За гэты час праведзена звыш двухсот мерапрыемстваў: выставы і кірмашы, сімпозіўмы, канферэнцыі, прэзентацыі... Арганізацыі і фірмы 34 краін свету, ад Расіі і ЗША да Інданезіі і Ліхтэнштэйна, удзельнічалі ў выставах "Мінскэкспо" толькі летась. Штогод іх наведвае звыш 200 тысяч чалавек.**

**Кампанія аддае прыярытэт актуальным для Беларусі прамысловаму і навукова-тэхнічнаму напрамкам. Самымі буйнымі ў рэспубліцы выставамі з'яўляюцца "Медыцына", "Белагра", "Будпрагрэс". Яны па праву названы лепшымі за мінулы год, а "Белагра-97" адзначана знакам Саюза выстаў і кірмашоў.**

МОВАЙ ЛІЧБАЎ

### АЙЧЫННАЯ НАВУКА

**Навукова-тэхнічны патэнцыял Беларусі сканцэнтраваны ў 292 арганізацыях, у тым ліку — 138 навукова-даследчых інстытутах, 54 канструктарскіх бюро, 35 вышэйшых навучальных установах. Колькасць работнікаў у сферы навукі і навуковага абслугоўвання складае 1,1 працэнта ад агульнай колькасці работнікаў, занятых у народнай гаспадарцы. У рэспубліцы налічваецца больш як паўтары тысячы дактароў навук і каля дзесяці тысяч кандыдатаў навук. Асноўны навуковы патэнцыял знаходзіцца ў арганізацыях і ўстановах прамысловасці (50 працэнтаў аб'ёму навукова-тэхнічных работ і 42 працэнты занятых), сельскай гаспадаркі (8 і 11 працэнтаў), будаўніцтва (4 і 4 працэнты), аховы здароўя (4 і 5 працэнтаў), Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (16 і 21 працэнт), адукацыі (11 і 8 працэнтаў).**

**Для вырашэння найбольш актуальных праблем развіцця эканомікі і сацыяльнай сферы па дзесяці прыярытэтных для рэспублікі напрамках навукова-тэхнічнай дзейнасці ў 1996—1997 гадах было сфарміравана 48 дзяржаўных навукова-тэхнічных праграм.**

ФРАНТАВАЯ ДРУЖБА



**53 гады пражылі разам Павел і Аляксандра МУХАМЕНДРЫКАВЫ, дачакаліся пяцярых унукаў. У час вайны абаранялі Ленінград, ён — афіцэр, яна — старшы чырванафлоцец. За ратную працу былі ўзнагароджаны, а цяпер вось разам атрымалі з рук старшыні Крычаўскага райвыканкома Аляксандра СІВАЕВА юбілейныя медалі маршала Жукава.**

**Фота Валерыя БЫСАВА.**

*"Стыхійны вываз прадуктаў з Беларусі ў Расію не спыняецца ўжо некалькі гадоў. Мяжа паміж абедзвюма дзяржавамі не ахоўваецца, мытных перашкод фактычна няма. Таму і вывозяць нашы суайчыннікі ў расійскія мегаполісы прадукты. Не сакрэт, што гэта даволі выгадны бізнес. Напрыклад, нашы мясцовыя камерсанты, якія нелегальна перапрадаюць ялавічыну ў Расію, на кожным фургоне вагой 20 тон зарабляюць па 5—6 тысяч долараў. У "чаўнакоў" прыбыткі меншыя, але таксама значна перавышаюць затраты.*

*Тым не менш, на маю думку, накіраваць экспарт харчавання ў, скажам так, цывілізаванае рэчышча ўсё ж можна. І для гэтага не варта зноў вяртаць на мяжу з Расіяй мытныя бар'еры. Трэба навесці парадак унутры нашай краіны, каб не было ўмоў для стыхійнага вывазу.*

*(З гутаркі карэспандэнта газеты "Звязда" са старшым оперупаўнаважаным па асабліва важных справах упраўлення па эканамічнай злачыннасці МУС Беларусі Уладзімірам ЯНКОЎСКІМ).*

ЗА РАТАВАННЕ ЯЎРЭЯЎ

### АЛЕЯ ПРАВЕДНІКАЎ

**Алея Праведнікаў з'явілася ў гэтыя майскія дні ў Брэсце. Яна была закладзена членамі мясцовай яўрэйскай абшчыны вакол сажалкі ў гарадскім парку. Тут высаджана 14 дрэў у гонар жыхароў Брэстчыны, якія з рызыкай для свайго жыцця ратавалі яўрэяў у гады другой сусветнай вайны і былі ўдастоены ўрадам Ізраіля высокага звання Праведнікаў.**

НА НОВЫ ЎЗРОВЕНЬ

### СУСВЕТНЫ БАНК СПАДЗЯЕЦЦА

**Далейшая стратэгія супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Сусветным банкам была разгледжана на сустрэчы 14 мая старшыні праўлення Нацбанка Пятра Пракаповіча з дырэктарам рэгіянальнага аддзела краін Беларусі і Украіны гэтай міжнароднай фінансавай арганізацыі Полем Сігельбаўмам.**

**У ходзе перагавораў галоўная ўвага была звернута на ключавыя моманты, якія будуць вызначаць форму ўзаемадзеяння бакоў. Абмеркаваны і пытанні лібералізацыі валютнага курсу. У ходзе сустрэчы выказаны намеры аб падрыхтоўцы новага тэкста Мемарандума аб супрацоўніцтве паміж урадам нашай краіны і Сусветным банкам, у якім павінны быць выкладзены асновы двухбаковых сувязей.**

**Пан Поль Сігельбаўм выказаў надзею, што супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Сусветным банкам у гэтым годзе ўзнімецца на новы ўзровень і будзе больш плённым.**

АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ

У МІНСКУ прайшоў 47-мы з'езд Еўра-азіяцкай федэрацыі саюзаў евангельскіх хрысціян-баптыстаў. На ім былі дэлегацыі з краін СНД, госці з Германіі, Вялікабрытаніі, Чэхіі, краін Балтыі.

У БЕЛАРУСІ забруджана радыенуклідамі 1,8 мільёна гектараў сельгасугоддзяў. З іх 265 тысяч гектараў увогуле выведзены з абароту.

НА АЖЫЦЦЯЎЛЕННЕ праграмы Еўрасаюза ТАСІС "Развіццё цывільнага грамадства" ў Беларусі выдзелены грант у памеры 5 мільёнаў долараў. Праграма мае тры накірункі: падтрымка сродкаў масавай інфармацыі, падтрымка недзяржаўных арганізацый і супрацоўніцтва універсітэтаў у галіне навучання і падрыхтоўкі моладзі.

ЗА РАСПРАЦОЎКУ спецыялізаванай аўтамабільнай тэхнікі для патрэб узброеных сіл Расіі указам Прэзідэнта Барыса Ельцына дырэктар Мінскага завода колавых цягачоў Уладзімір Волкаў і група спецыялістаў (усяго — 17 чалавек) узнагароджаны ордэнам Дружбы. Узнагароды ўручыў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Расійскай Федэрацыі ў Беларусі Валерый Лашчынін.

XI МІЖНАРОДНЫ фестываль старадаўняй і сучаснай камернай музыкі адбыўся ў канцэртнай зале слыннага Сафійскага сабора ў Полацку. У ім прынялі ўдзел выкаўнаўцы сусветнага ўзроўню: Марыя Біешу з Малдавіі, Літоўскі камерны аркестр Саўлюса Сандэцкіса, Маргарыта Фёдарава з Расіі і іншыя.

ВІЗЫ ў Польшчу патаннеюць з сярэдзіны ліпеня гэтага года. Для расіян і беларусаў яны будуць каштаваць: аднаразовая — каля 5 долараў, шматразовая тэрмінам да 6 месяцаў — 14—20 долараў.

АНСАМБЛЬ харэаграфічных і музычных мініяцюр "Бліскавіца" пад кіраўніцтвам Ірыны Кавальчук прыняў удзел у фестывалі "Красавіцкая вясна" ў Паўднёвай Карэі і заваяваў залатыя кубкі па пяці намінацыях і "Залатую ліру". "Бліскавіцу" пасля такога поспеху афіцыйна запрасілі на тур па краіне.

"ЗЯМЛЯ пад белымі крыламі". Міжнародны фестываль юных талентаў пад такой назвай прайшоў у Мазыры.

У ім узялі ўдзел дзіцяча-юнацкія калектывы з двух гарадоў Расіі, двух — Украіны, а таксама з Румыніі, Югаславіі, Пінска і Оршы. На працягу чатырох дзён удзельнікі фестывалю дэманстравалі сваё майстэрства ў вакальных спевах, музыцы, харэаграфіі.



**МАКЕТ будучага дарожнага знака — сімвала пачатку дарог Беларусі ўстаноўлены на Кастрычніцкай плошчы сталіцы дзяржавы. Неўзабаве на гэтым месцы замест макета з'явіцца мармуровая пірамідa беларускага "нулявога кіламетра".**

**НА ЗДЫМКУ: Кастрычніцкая плошча. Нулявы кіламетр.**



**У Мінску, на праспекце Машэрава, 23, адкрылася "Беларускае бістро". Тут можна хутка і смачна паесці, пакаштаваць пры гэтым разнастайныя нацыянальныя стравы, такія, як печаная бульба, дранікі, бульбяныя каўбаскі, запечаная галёнка з беларускім півам і многае іншае.**

**Восемдзесят гасцей адначасова можа прыняць бістро, а летам — яшчэ чатырыста ў летнім кафэ каля каляровамузычнага фантана.**

**НА ЗДЫМКУ: у новым бістро.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

# «ЗАЛАТЫ МЕРКУРЫЙ» ЛЕСАВОДАМ






Асацыяцыя "Monde Sans Frontiere" (Францыя), што з'яўляецца каардынатарам міжнароднай праграмы "Партнёрства дзеля прагрэсу", на падставе ацэнак міжнародных экспертаў па такіх паказчыках, як дынаміка вытворчасці і асартымент, аб'ёмы вытворчасці, эфектыўнасць, экалогія і іншыя, узнагародзіла 38 вядучых прадпрыемстваў Беларусі, сярод якіх і Лагойскі лясгас, прызамі "Залаты Меркурый". Гэтая праграма створана пры ўдзеле шэрагу міжнародных фінансавых і інвестыцыйных кампаній, банкаў, вытворчых прадпрыемстваў, грамадскіх арганізацый. Запрасілі беларускіх прамыслаўкоў і ў клуб "Эліта еўрапейскага бізнесу".

А ўдастоены гэтай высокай узнагароды лагайчане не выпадкова. У іх у галіне адна з лепшых баз дрэваапрацоўкі. Падача драўніны да цэха распілоўкі поўнасцю механізавана, а ўчастку па вырабу сталярных вырабаў можа пазайздросціць не адзін дырэктар лясгаса. "Тым не менш дрэваперапрацоўка не самае галоўнае ў рабоце лесаводаў, — гаворыць дырэктар лясгаса Алег Дашкевіч. — Наша галоўная задача — расціць лес". Таму невыпадковы высокі паказчык аблесенасці раёна, які складае прыкладна 50 працэнтаў усёй тэрыторыі Лагойшчыны. Словам, лесаводы ўмеюць добра пілаваць, пры гэтым не забываючы свайго сапраўднага прызначэння — лесаўзнаўлення.

Калі мы выйшлі на дзялянку, дзе працуе дружынінская брыгада, лесарубы толькі што прыселі на перакур. У гэты момант фотакарэспандэнт іх і сфатаграфаваў.

**НА ЗДЫМКАХ: прыз "Залаты Меркурый"; дыплом, якім узнагароджаны Лагойскі лясгас; брыгада-пераможца: (злева направа) памочнік вальшчыка Н. ІВАНОЎ, ляснік Н. ЖАЛАБКОВІЧ, брыгадзір А. ДРУЖЫНІН, памочнік вальшчыка А. МАЦКЕВІЧ.**

**Сяргей САБАДАШ.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**



# АКАЖУ ДАПАМОГУ Ў ПОШУКАХ СКАРБАЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

гранату, якая не разарвалася, зброю ці снарады, але і танк, што захаваўся ў прыстойным стане. Потым тэхніку вывезлі, лясы размініравалі, а ад усёй гэтай "экзотыкі" засталіся толькі шукальнікі-сталкеры, якія ходзяць шукаць "хабар" у вядомыя толькі ім месцы. Знаходкі бываюць розныя — ад праславутых гаршкоў з манетамі (праўда, не заўсёды залатымі) да цэлых танкаў і самалётаў. Адны цікавяцца выключна вайной 1812 года, другія — першай сусветнай, а для іншых важна толькі тое, што звязана з Вялікай Айчыннай. Бывае і больш вузкая спецыялізацыя: узнагароды, зброя, дакументы. Існуюць калекцыі шукальнікаў, у якіх сабраны, напрыклад, гранаты самых розных войн і краін. Гаспадар такой калекцыі — сапраўдны эксперт у сваёй справе, які, напрыклад, можа, расказаць, што славуты "кактэйль Молатава" родам зусім не з Расіі, як гэта прынята лічыць. Больш таго, немцы выраблялі для запальнай сумесі спецыяльныя ёмістасці, ампулы і капсулы.

Вынікам работы іншага "скарбашукальніка" стала калекцыя нямецкіх узнагародных пярсцёнкаў. Хто сёння ўвогуле ведае, што ў нямецкай арміі была такая ўзнагарода? Бывае, што сустракаюцца ўзнагароды, якіх няма ні ў адным каталогу. Але самае цікавае, калі знаходзяць дакументы. Некалькі гадоў назад быў знойдзены партфель з дакументамі асобага аддзела Другой ударнай (нямецкай) арміі. Але паколькі знайшлі яго зусім выпадковыя людзі, дакументы прапалі. Невядома, які лёс спасціг знойдзены ў Беларусі сейф з лётнымі кніжкамі нямецкіх пілотаў. Наракаць наконт гэтага бессэнсоўна. Ва ўсе часы, знайшоўшы скарб, далёка не кожны шчаслівец бег здаваць яго дзяржаве. А тут — нейкія паперкі...

**ДЗЕ ШУКАЮЦЬ!**

Курганоў самадзейныя шукальнікі не любяць: зямлі насыпана многа, а прыборы глыбока не бяруць. Зрэшты, гэта не перашкодзіла скарбашукальнікам-аматарам проста разграбіць курганы з пахаваннямі бронзавага веку, якія знаходзіліся паміж Зялёным і Заслаўем пад Мінскам. Значна больш перспектыўнымі з пункту гледжання скарбашукальніцтва выглядаюць старыя гарадзішчы. У якасці наводак нярэдка выступаюць легенды, успаміны далёкіх сваякоў. Ступень іх дакладнасці, па словах Эдуарда, выглядае наступным чынам: "Помню, бабка гаварыла, што чыгунок з чырвонцамі закапалі вунь за той лазняй", — гаворыць няцвёрдым голасам далёкі нашчадак багатай сваячкі.

— Капаем-капаем, — успамінае Эдуард, — ні чыгунка, ні чырвонцаў. Гаспадар, бачачы гэта, чэша патыліцу і гаворыць: "А хто яго ведае, можа лазня не тая... А можа, і вёска іншая..."

Пачуць такое пасля дня цяжкай фізічнай працы... Бывае, што чалавек можа досыць дакладна ўказаць месца, дзе некалі быў закапаны скарб. А бывае, што шукальнікам даюць два гектары вясенняй пашы, запэўніваючы, што тут то ўжо дакладна што-небудзь ёсць. Міжволі ўспамінаецца класічны анекдот аб самым хуткім спосабе ўзараць агарод у адсутнасць арыштаванага гаспадара.

Па назіраннях вопытных скарбашукальнікаў, метады ўтойвання каштоўнасцей маюць свае нацыянальныя рысы. Так, рускія лічылі за лепшае закопваць скарбы пад печкай, яўрэі больш давяралі кутам. Свае схільнасці былі і ў палякаў. Прафесіяналы на старых гарадзішчах працуюць з добрай апаратурай, дакладна ведаючы, што і дзе яны могуць знайсці.

**ХТО ШУКАЕ!**

Іншы раз скарбы па старых "наводках" нябожчыкаў-продкаў шукаюць іх сваякі. І гэтая крыніца інфармацыі, як правіла, аказваецца найбольш дакладнай.

Пра свае знаходкі гаварыць не хоча ніхто. А дзе, калі і колькі знайшлі знаёмыя, сябры і сябры знаёмых, скарбашукальнікі могуць гаварыць бясконца. Напрыклад, нядаўна адзін міліцэйскі маёр шукаў з сябрам скарб з дапамогай чараўніцы, якая жыве пад Масквой і спецыялізуецца менавіта на скарбах, прычым, наяўнасць ці адсутнасць іх у тым ці іншым месцы вызначае па прысланай ёй фатаграфіі канкрэтнага агарода ці лазні. Скарб знайшлі. Гавораць, што пасля яго рэалізацыі міліцыянеры атрымалі 16 000 долараў, якія мірна падзялілі папалам. Чараўніца ад прапанаванай долі адмовілася, спаслаўшыся на тое, што грошы дрэнна ўплываюць на яе патэнцыю чараўніцы. Гэты момант, бадай, з'яўляецца найменш дакладным ва ўсёй расказанай гісторыі. Гавораць, што ў Маскве ўжо з'явіліся чараўнікі і экстрасенсы, якія спецыялізуюцца менавіта на пошуках скарбаў.

Некаторыя шукаюць скарбы пры дапамозе лазы і іншых такіх жа экзатычных спосабаў. Ці знаходзяць, невядома.

Зрэшты, большасць скарбашукальнікаў аддаюць перавагу добрай апаратуры. Многія карыстаюцца амерыканскім прыборам "Garrett", кошт якога вагаецца ад 500 да 2 000 долараў. Да яго можна набыць набор дыскаў рознага дыяметра, у залежнасці ад зонда і памеру прадмета прыбор можа выявіць шукаемае на глыбіні да двух метраў. Можна набыць і больш дасканалую апаратуру, праўда, кошт яе адпаведна будзе намнога вышэйшы. Зрэшты, усе гэтыя прыборы дзейнічаюць па тым жа прынцыпе, што і мінашукальнік, і нярэдка здараецца, што, перавярнуўшы пару тон добрага беларускага пяску, шукальнікі нарэшце выцягвалі на свет іржавую рэсору трактара "Беларусь".

Самая ж непрыемная катэгорыя шукальнікаў — трунакапальнікі, якія ноччу рыюцца на могілках. Аднак гэты самы брудны від пошукавай дзейнасці прыносіў ледзь ці не самы высокі даход за кошт залатых каронак і ювелірных вырабаў. Ёсць і такія, хто ходзіць у лес, як на работу. Іх цікавіць усё, што ўзрываецца і страляе. Аднаму прыемна ўсведамляць, што ў яго дома ляжыць абрэз ці процітанкавая міна, іншы шукае гэтыя цацкі для продажу.

Ёсць яшчэ адна катэгорыя, да якой адносяцца тыя, хто ставіць перад сабой канкрэтную мэту — знайсці, прадаць і атрымаць грошы. Вельмі часта яны нават не ведаюць каштоўнасці знойдзенай рэчы, і капацца ў кнігах, збіраючы інфармацыю аб ёй, таксама не будуць.

А ёсць і сапраўдныя калекцыянеры. Яны часам не горш за прафесіяналаў разбіраюцца ў знойдзеных рэчах, перагортваюць горы літаратуры ў пошуках патрэбнай інфармацыі.

**ЧАМУ ШУКАЮЦЬ!**

Эдуард цвёрда перакананы, што ў аснове страсці да скарбашукальніцтва ляжыць спрадвечнае чалавечае імкненне да дармаўшчыны. Помніце Іванадурня, які, вылавіўшы з палонкі адну-адзіную рыбіну, забяспечыў сабе і матэрыяльны дабрабыт, і шчаслівае асабістае жыццё? Так і тут — дзень у зямлі пакапаўся, а багацця на ўсё астатняе жыццё накапаў. А для многіх скарбашукальніцтва — гэта хобі, ім важны не вынік, а сам працэс. Аднаму падабаецца сядзець з вудай на беразе ракі, другому блукаць па лесе з мінашукальнікам. Па словах саміх шукальнікаў, скарбашукальніцтва блізкае да наркаманіі, і, знайшоўшы што-небудзь адзін раз, будзеш капацца ў зямлі доўгія гады. Летам пакапацца ў зямлі людзі едуць цэлымі сем'ямі — з дзецьмі, сабакамі і цешчамі. Многія шукаюць скарбы ў адзіночку, бо яшчэ невядома, як будзе паводзіць сябе твой напарнік, калі рыдлёўка ў зямлі бразне аб нешта цвёрдае... Як сказаў Эдуарду яго калега, пакуль шукаеш — ты ўсяго толькі звычайны чалавек, які капаецца ў зямлі. Але калі знайшоў — тут ужо пачынаецца крымінал, і ты становішся цікавым літаральна ўсім: ад сваіх калег да міліцыі, бандытаў і блізкіх сяброў. І папулярнасць гэта чамусьці зусім не радуе. Таму нямала людзей адпраўляюцца шукаць скарб у поўнай адзіноце.

Тэлефануюць Эдуарду па яго аб'яве многа і ахвотна. Ды і ў саміх вёсках мясцовыя жыхары на пытанне, ці не закапаў тут хто-небудзь калі-небудзь якога скарбу, дружна заківаюць галовамі, начэрцяць план, пакажуць дарогу, або і само месца, дзе гэты скарб ляжыць. Па словах Эдуарда, людзей, якія ведаюць аб месцазнаходжанні таго ці іншага скарбу і жадалі б расказаць пра гэта, вялікае мноства. Пры гэтым самастойных спроб выкапаць скарб яны чамусьці не робяць, аддаючы перавагу расказам з падрабязнасцямі, якія можа ведаць толькі відавочца таго, як за ваколіцай іх вёскі закопваў скарб асабіста Кастусь Каліноўскі ці сам імператар Францыі.

**ДЗЕ ЗАХОЎВАЮЦЬ!**

Прыватныя калекцыі існавалі заўсёды, і, на жаль, абсалютная большасць іх з Беларусі вывезена. У лепшым выпадку, экспанаты апынуліся ў Маскве, Санкт-Пецярбургу, Кіеве, Варшаве ці Кракаве. У горшым — у значна больш далёкім замежжы. Як адбылося гэта, напрыклад, са славутай у царскія часы калекцыяй Генрыха Татура, які прадаваў экспанаты ў Луўр ці музей Клюні. Пасля яго смерці калекцыя была ацэнена ў 200 000 рублёў серабром. Хто можа сказаць, дзе яна цяпер? І дзе калекцыі Ельскага, Федаровіча, Храптовіча?

Аднак аб гэтых калекцыях вядома хаця б тое, што яны некалі існавалі. Пра сённяшнія прыватныя калекцыі можна меркаваць хіба што па чутках. І калі ў Брытаніі экспазіцыі многіх музеяў цалкам базіруюцца на прыватных калекцыях, у Амерыцы ў чыстым выглядзе дзяржаўным музеем з'яўляецца толькі Смітсанаўскі інстытут, то ў нас іх хаваюць далей ад чужых вачэй, прымаючы неверагодныя, на першы погляд, меры перасцярогі. Так, Эдуард расказаў аб сваім сябры, які для абароны сваёй калекцыі распрацаваў цэлую ахоўную сістэму, і калі экспанатамі захоча пацікавіцца няпрошаны госць, у доме блакіруюцца вокны і дзверы і пачынае паступаць газ.

Страх за прыватныя калекцыі не беспадстаўны. Калі некалькі гадоў назад беларускія калекцыянеры паспрабавалі афіцыйна стварыць сваё таварыства, праз два дні да іх ужо пастукаліся аматары старажытнасцей з шырокімі плячыма...

У аднаго калекцыянера, які збіраў халодную зброю, прадстаўнікі закона экспанаты канфіскавалі, а яго самога аб'явілі бандытам. З цяжкасцю яму ўдалося даказаць, што законам праследуецца набыццё, а не захоўванне халоднай зброі. Хто яго ведае, якія кансервавыя бляшанкі адкрывалі ахоўнікі закона антыкварнымі экспанатамі, але да ўладальніка яны вярнуліся ў дрэнным стане.

Беларусь зусім не багатая на гістарычныя рэліквіі, але тут ёсць прыватныя калекцыі, дзе можна сустрэць нават антычныя рарытэты, якіх і ў Нацыянальным музеі — адзінкі. Уладальнік гэтай калекцыі надзейна хавае яе ад чужых вачэй і гаварыць пра яе не жадае.

**ВОСЬ, УЛАСНА, І ЎСЁ**

Нягледзячы на ўсе запэўніванні Эдуарда ў любві мясцовых жыхароў да тых, хто шукае схаваныя ці закапаныя скарбы, дазволім сабе заўважыць, што так справа выглядае далёка не заўсёды. Іншы раз добразычлівыя сяляне выклікаюць міліцыю, іншы раз самі не супраць высветліць адносіны з дапамогай драбавіка ці кала.

Тым не менш, рызыкнем заўважыць, што беларускія нетры не так ужо і бедныя на старадаўнія рэчы, і родная дзяржава магла б зарабляць немалыя грошы, арганізаваўшы скарбашукальніцкія туры і адкрыўшы канторы па выдачы пошукавага абсталявання. Неяк сюды пашукаць скарбы прыязджалі немцы. Папрацаваўшы ў нашым лесе са сваімі прыборамі, даволі хутка выявілі цэлы склад мін часоў другой сусветнай вайны, што выклікала ў іх прыступ вялікай радасці: экзотыка, нямецкія ж лясы даўно ачышчаны ад сюрпрызаў такога тыпу. Што тычыцца прагматычнай Амерыкі, то там нават выдаюцца зборнікі з указаннем месцаў, дзе могуць знаходзіцца скарбы. На непазбежныя пярэчанні археолагаў заўважым, што такі вопыт маецца ў многіх краінах свету, а тыя зоны, дзе могуць быць экспанаты, якія маюць сур'ёзны гістарычны інтарэс, у такіх выпадках аб'яўляюцца запаведнікамі.

А на развітанне Эдуард сказаў:

— Шчыра кажучы, я думаю, што мог бы зарабіць значна больш, калі б не капаўся ў зямлі, а напісаў кнігу пра тое, як я шукаў скарб...

Што ж, пачакаем...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

З ГІСТОРЫІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# АКУПАЦЫЯ

## 2. АСАБІСТАЯ МАТЭРЫЯЛЬНАЯ ЗАЦІКАЎЛЕНАСЦЬ

Германскія ўлады ўзаконілі марадзёрства ў сваёй арміі і падтрымлівалі грабяжы і насілле: у кожнага фашысцкага ваякі павінна быць "асабістая матэрыяльная зацікаўленасць у вайне". Так, у сакрэтнай інструкцыі ад 17 ліпеня 1941 года, накіраванай усім камандзірам рот прапаганды германскай арміі, указваецца на неабходнасць "выхоўваць у кожнага афіцэра і салдата германскай арміі пачуццё асабістай матэрыяльнай зацікаўленасці ў вайне".

У дакладной запісцы начальніка сувязі ваенна-гаспадарчага ўпраўлення ОКВ пры рэйхсмаршале Герынгу генерала Нагеля аб плане эканамічнага аграблення падлягаючай захопу тэрыторыі СССР ад 14 жніўня 1941 года падкрэсліваецца; "Рэйхсмаршал некалькі разоў указваў на тое, што не трэба чыніць ніякіх перашкод салдатам, калі яны па ўласнай ініцыятыве забяспечваюць сябе. Зразумела, не трэба дарма растрачваць каштоўнасці, але не трэба і быць дробязнымі, у тым ліку ў кантролі на мяжы і на мытнях. Безумоўна, пры рэквізіцыі і вывазе павінен быць поўны парадк".

У дакладной запісцы Нагеля ад 16 верасня 1941 года аб перадачы ў падпарадкаванне вермахта пытанняў вывазу з акупіраваных абласцей прамысловага абсталявання і сыравіны і неабходнасці забяспечваць харчаваннем і армію, і насельніцтва Германії за кошт акупіраваных абласцей падкрэсліваецца, што на нарадзе ў Герынга 16 верасня 1941 года гаварылася: "У салдат заўсёды добры апетыт, усё, што яны могуць здабыць, яны з'ядаюць, нават калі гэта і не абавязкова патрабуецца для іх забеспячэння. Такім чынам, адбываюцца дадатковыя рэквізіцыі свіней і рагатай жывёлы пад вельмі падазроныя квітанцыі або без іх. Калі войскі на пярэднім краі не заўсёды могуць выконваць правілы па гэтай частцы, то гэта яшчэ не так моцна рэжа вочы".

Такога ж роду загады, якія штурхаюць армію на масавыя грабяжы і забойствы ў адносінах да мірнага насельніцтва, выдаваліся і ў іншых арміях, якія ваявалі ў саюзе з Германіяй. Так, у загадзе начальніка штаба 10-й румынскай дывізіі палкоўніка Ніласку за № 24220 гаварылася: "Хлеб, буйная рагатая жывёла, дробная рагатая жывёла, хатняя птушка — усё гэта павінна быць забрана ў насельніцтва для арміі. У кожным доме неабходна рабіць дакладныя вобыскі і забіраць усё без астатку... За самае нязначнае супраціўленне — расстрэльваць на месцы, а дамы — спальваць".

У дакладной запісцы ў ЦК КП(б)Б І. Пазнякоў 5 жніўня 1941 года пісаў: "Прайшоўшы з 2-га па 30-е ліпеня па тыле ворага, я, як і многія іншыя, наглядаў асабіста поўнае марадзёрства і грабяжы немцамі насельніцтва. У сялян забіраюць вопратку, іншыя рэчы і пасылкамі адпраўляюць у Германію. Бяруць бульбу, хлеб, жывёлу, птушку. Калі са зброяй у руках нельга дастаць малака, нямецкія салдаты самі дояць кароў. У асобных месцах Уздзенскага, Пухавіцкага раёнаў сялянам загадвалі грамадскую жывёлу на фермах не разбіраць (быццам бы для вядзення гаспадаркі) і тут жа ў Азёрскім сельсавеце ўсю ферму эшалонам адправілі ў Германію".

У запісцы ў ЦК КП(б)Б сакратар партбюро Магілёўскага вагоннага ўчастка Беларускай чыгункі В. Якіменка 16 жніўня 1941 года пісаў: "13 дзён, з 1 жніўня па 13 жніўня, я ішоў па акупіраванай ворагам тэрыторыі з горада Магілёва. У в. Касцюкоўка Крычаўскага раёна немцы, два салдаты і афіцэр, прыйшлі да гр. Драгулінай і спыталі, дзе яе муж. Яна адказала, што ў Чырвонай Арміі. Яны тады далі каманду пад'ехаць на аўтамашыне і забралі карову. А калі Драгуліна Ксенія пачала прасіць не забіраць, гаварыла, што ў яе сям'я — чацвёра дзяцей, кінулася на калені, афіцэр ударыў яе ў твар. Тады жанчына стала крычаць: "Бандыты, сцярвятнікі!" Яе забілі, а дзяцей кінулі ў склеп і прымусілі аднавяскоўца Жмыра, калгасніка, закідаць склеп зямлёй. Ён быў актывіст. Потым пасярэдзіне вуліцы яго расстралялі, а труп прывязалі да плота".

У дакладной запісцы ў ЦК КП(б)Б старшы аператыўнай групы Я. Сляпцоў 8 кастрычніка 1941 года пісаў: "У вёсцы Пратасы ў аднаасобніцы, у якой сын лётчык, а муж мабілізаваны на працоўныя работы, немцы забралі ўсё: каня, кабана, ячмень — апошнія два пуды. У гэтай жа вёсцы ў калгасніцы адабралі кажушок, палатно, хусткі і іншыя рэчы, тут жа перавязалі шпагатам, напісалі адрас у Германіі і кінулі ў паштовую машыну".

На германа-савецкім фронце і, у прыватнасці, на подступах да Масквы ўсё больш сустракалася афіцэраў і салдат, апранутых у нарабленую адзежу, з крадзенымі рэчамі ў кішэнях, якія везлі на танках садраную з сваіх ахвяр жаночую і дзіцячую адзежу, абутак і бялізну. Германская армія ўсё больш ператваралася ў армію прагных грабежнікаў і марадзёраў, якія разбуралі і грабілі гарады і вёскі СССР, раскрадалі і знішчалі маёмасць і ўсякае дабро, нажытае працоўным насельніцтвам нашых гарадоў і вёсак.

У данясенні валожынскага акруговага кіраўніка сельскай гаспадаркі абласному кіраўніку сельскай гаспадаркі ў Вілейцы Маладзечанскай вобласці аб аграбленні і знішчэнні населеных пунктаў групай Дзірлевангера ад 25 ліпеня 1943 года гаворыцца: "Уся жывёла, якая знаходзілася ў стойлах, была застрэлена ці забрана ў якасці здабычы падраздзяленнем Дзірлевангера. У акрузе Валожына немцамі ў чэрвені 1942 года было сабрана 5 273 кілаграмы масла і 41 100 штук яек, а ў чэрвені 1943 года — 13 251 кілаграм масла і 175 397 штук яек".

У справаздачы раённага ўпаўнаважанага па сельскагаспадарчых пытаннях Розе мінскаму абласному камісару аб аперацыі па аграбленні насельніцтва ў горадзе Івянцы ад 14 верасня 1943 года паведамлялася: "Пасля заканчэння праведзенай у раёне Івянца аперацыі на 8 жніўня на зборным пункце ў Івянцы маецца: 586 кароў, 200 цялят, 400 авечак, 50 свіней. Коней было ўзята каля 300, з якіх у Івянцы знаходзіцца 100 (дрэнныя коні, якія перададзены сялянам для ўборкі ўраджаю). Добрых коней узялі з сабой батальёны Дзірлевангера і Крайкенбома. Дакладных даных аб іх колькасці няма. Жывёлу дзвюма групамі пад аховай перагналі праз Ракаў і Заслаўе.

Асобыя цяжкасці звязаны з уборкай ураджаю і размяшчэннем непрацаздольных людзей з эвакуіраваных вёсак. Для ўборкі ствараюцца спецыяльныя каманды з жыхароў блізкіх вёсак, якія ўжо пачалі работу пад наглядам і аховай паліцыі. Непрацаздольных людзей па дамоўленасці з раённым упаўнаважаным па сельскагаспадарчых пытаннях у Радашковічах мы рассяляем у раёне Радашковічаў, у незгарэўшых вёсках".

**Мікалай БАНДАРЭНКА.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 18, 19.**

ДА ГАДАВІНЫ ВЯДОМАЙ І МАЛАВЯДОМАЙ БІТВЫ

# ПА СЛЯДАХ ГЕРОЯЎ МОНТЭ-КАСІНА

Ліда, верасень 1939 года. Тады маладая сям'я Бярнарда Чарнавуса кватаравала ў адным з домікаў па цяперашняй вуліцы 8 Сакавіка. Ішлі першыя дні другой сусветнай вайны, дні трывогі і няпэўнасці. Бярнард тым ранкам быў на рабоце ў аднаго гаспадара, жонка глядзела за дзецьмі і завіхалася на кухні. Нечакана ў кватэру зайшоў паліцыянт і прынёс павестку аб мабілізацыі Б. Чарнавуса ў Войска Польскае. І неўзабаве чалавек апынуўся на польска-нямецкім фронце. Як сведчылі былыя аднапалчане, малады лідчанін мужна змагаўся з фашыстамі пад Львовам. Калі ж Чырвоная Армія рушыла ў Заходнюю Украіну і Заходнюю Беларусь, Бярнард быў інтэрніраваны і вывезены ў Расію. Адтуль пісаў лісты жонцы і дзецям, спадзяваўся вярнуцца дамоў...

Пра даўнія бацькавы пісьмы, яго і ўсёй сям'і надзеі з тугою прыгадвае сын Бярнарда Генрых, якому ўжо 63 гады. З прыходам Саветаў жонка польскага жаўнера пайшла працаваць у шпіталь. Там якраз лячыўся адзін афіцэр НКУС... Жанчына неяк расказала яму пра сваю бяду і намер з'ездзіць да мужа ў Расію. "Не раю вам гэтага рабіць, сказаў чалавек з органаў, можаце нашкодзіць сабе і мужу". І маладзіца вымушана была стрымаць памкненні сваёй душы, хоць потым і шкадавала аб гэтым.

Аб лёсе мужа і бацькі Чарнавусы атрымалі першыя скупыя звесткі праз некалькі гадоў пасля пераможнага мая 45-га. Аказалася, калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, Бярнард Чарнавус праз пэўны час зноў надзеў мундзір вайскоўца: ён трапіў у сфарміраваную ў Савецкім Саюзе армію генерала Андэрса. Аб чым і напісаў з Польшчы ў Ліду ветэран, які разам з лідчанінам служыў у ІІ польскім корпусе і ваяваў пад Монтэ-Касіна. У час штурму крэпасці Бярнард атрымаў цяжкае раненне і па дарозе ў шпіталь памёр. Потым падобнае паведамленне прыйшло і з Англіі. Калі ж матэрыял аб героях малавядомай у нас бітвы, у тым ліку пра Б. Чарнавуса, з'явіўся ў мясцовым друку, яго сын Генрых чытаў тыя журботныя радкі і паліваў іх слязамі.

Яшчэ пра падобны лёс маладога селяніна з хутара Міхайлаўка Лідскага павета (зараз Воранаўскі раён) Антона Хвайніцкага. У 30-х гадах ён адбыў тэрміновую вайсковую службу. Пачатак другой сусветнай вайны сустрэў сямейным чалавекам. А пасля нападу фашысцкай Германіі на Польшчу Сальвуковаму Антаку (так па імені бацькі звалі малодшага Хвайніцкага) прыйшлося зноў надзець форму жаўнера. Па словах Антонавага сына Тадэвуша, дзед Сальвук адвёз свайго нашчадка на падводзе разам са стрыечным братам Юзафам на прызыўны пункт у Ліду. Затым баі таксама пад Львовам, інтэрніраванне ў Расію, армія Андэрса і нарэшце Італія. Монтэ-Касіна.

Як і на сапраўднай службе, у ІІ польскім корпусе Антон Хвайніцкі быў санітарам. У час жорсткіх баёў ён выратаваў нямала параненых байцоў. Падчас кароткай перадышкі паміж атакамі, па словах відавочцаў, Антон нечакана выбег з укрыцця і накіраваўся ў бок перадавой, дзе чакаў дапамогі салдат у рагатыўцы. І раптам побач з санітарам разарвалася міна, яму адарвала ногі. У жахлівых пакутах жаўнер з-пад мястэчка Забалаць памёр там жа, на полі бою.

Цяжка расказваць пра душэўныя пакуты людзей, якія страцілі сваякоў у крыважэрнай вайне. Тым больш невыносныя такія пакуты, калі невядома, дзе блізкі чалавек загінуў, у якім месцы ён знайшоў вечны спачын.

Цэлыя дзесяцігоддзі неслі ў душы гэтыя мукі сястра і брат Канстанціна Астрэйкі. Юнака з вёскі Эйтуны, што паміж Лідай і Воранавам, перад вайною прызвалі ў Чырвоную Армію. Было ад яго некалькі пісьмаў, а з пачаткам Вялікай Айчыннай Кастусь знік. У невядомасці працягваліся доўгія дзесяцігоддзі і пасля Перамогі. Цяжка сказаць, як чырвонаармеец-беларус апынуўся ў арміі Андэрса. Ды факт застаецца фактам: К. Астрэйка прайшоў нямала ваенных дарог у складзе ІІ польскага корпуса і загінуў смерцю героя пад Монтэ-Касіна. Аб гэтым стала вядома каля двух гадоў назад.

У ліку іншых землякоў, што вечным сном спяць на вайсковых могілак у гарах Італіі, Юзаф Філіпчык, Аркадзь Барысевіч і іншыя. Колькі ні пісала Аркадзева жонка Юля ў розныя інстанцыі — усё было дарэмна, ці, як гавораць, глуха. Так і памерла, бедная, нічога не даведаўшыся пра свайго любага. Добра, сваякі хоць дазналіся аб лёсе салдата.

Журналісцкія вандроўкі падарылі мне спатканні і з жывымі героямі Монтэ-Касіна. У вёсцы Лукі Карэліцкага раёна я меў хвалюючую сустрэчу з Іванам Буглаком, абаронцам Вестэрплятэ ў верасні 1939 года, тады байцом 3-й дывізіі карпацкіх стралкоў, а потым удзельнікам вызвалення Паўночнай Афрыкі ды Італіі. І сёння ў вачах стаіць знявечаны вайною селянін Халупка (імя, на жаль, не помню), які жыў на хутары пад Варончай. Жонка яго (колькі год назад абое памерлі) мяне папярэдзіла, што стары ветэран нічога не зможа расказаць. Бедны чалавек раз-пораз уздрыгваў і ўзрушана вымаўляў адну фразу: "Монтэ-Касіна". Паўтараў яе зноў і зноў. Бачыць гэта было шчымліва і балюча. А перажыць салдацкія пакуты і лагеры ваеннапалонных было цяжэй у тысячу разоў.

Напрыканцы яшчэ колькі слоў пра Монтэ-Касіна. У студзені-сакавіку 1944 года войскі саюзнікаў тройчы безвынікова спрабавалі авалодаць крэпасцю. Размешчаная ў гарах, гэта цвярдыня кантралявала аўтастраду Неапаль — Рым і блакіравала рух войск антыгітлераўскай кааліцыі на поўнач Італіі. У маі на штурм умацавання пайшлі жаўнеры Андэрса, салдаты ў рагатыўках. На восьмы дзень жорсткіх кровапралітных баёў яны дабіліся перамогі. Страты жаўнераў корпуса, сярод якіх нямала было беларусаў і ўкраінцаў, склалі каля 4 000 байцоў (разам з параненымі і без вестак прапаўшымі). Такі бязлітасны і цяжкі рахунак толькі адной бітвы, у якой удзельнічалі нашы землякі. І забываць пра гэта мы не маем права.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**



**Выхаванцы мастацкіх школ, дзіцячых студый, кіраўнікі гурткоў, самадзейныя мастакі і майстры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва горада Мінска прынялі ўдзел у выставе "Фарбы вясны", якая праходзіла ў Рэспубліканскім выставачным цэнтры на вуліцы Янкі Купалы. Гэта яшчэ адна старонка першага фестывалю народнай творчасці "Беларусь — мая песня". Арганізавалі экспазіцыю ўпраўленне культуры Мінгарвыканкома і метадычны цэнтр народнай творчасці.**

**НА ЗДЫМКУ: выстава — школа творчасці для дзяцей і дарослых.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

БЕЛАРУС З СУРГУТА

# ВЕЧНЫ КЛОПАТ АНАТОЛЯ СІЛІВОНЧЫКА

У працяг тэмы аб жыцці беларусаў Сібіры, якая была распачата ў артыкуле "Сибиряк — значит белорус", апублікаваным у газеце "Голас Радзімы" № 14 ад 09.04.98, варта расказаць не толькі аб дзейнасці беларускіх суполак у гэтым далёкім краі, але і пра асобных людзей, якія робяць шмат для Беларусі і захавання беларускасці па-за межамі Бацькаўшчыны.

Сібір — край моцных людзей, загартаваных суровым жыццём. Умовы існавання патрабуюць тут цвёрдага характару і фармуюць тым самым чалавека-асобу. Таму нават і адзін чалавек сібірскага гарту, з беларускай працавітасцю, адказнасцю, гаспадарлівасцю можа зрабіць многае. Галоўнае, каб памятаў ён пра свой дом, пра зямлю, якая дала жыццё ягонаму роду.



Такі вось добры прыклад ёсць у сібірскім горадзе Сургуце, дзе больш дваццаці гадоў жыве беларус з Палесся Анатоль Сілівончык. Ён быў адным з першых, хто адгукнуўся на покліч Радзімы і прыняў актыўны ўдзел у аб'яднаўчым руху беларусаў вакол сваёй Бацькаўшчыны. У снежні 1992 года Анатоль прыехаў у Мінск на Першы сход беларусаў блізкага замежжа. Ужо тады ён зацікавіў многіх сваёй палымянай прамовай. Але на той час было многа ахвотнікаў гаварыць прыгожыя словы, аднак да рэальных спраў, як паказаў час, не ўсе аказаліся здольнымі, Падсумаваўшы пройдзеныя гады, цяпер можна адзначыць, што Анатоль Сілівончык стаў адным з нямногіх, хто падтрымаў беларускую справу не толькі словамі, але найперш справамі. Ён не збочыў з абранага шляху, хоць уласнае яго жыццё і дзейнасць былі поўнымі розных цяжкасцей і перашкодаў. Але, як толькі надавалася магчымасць, Анатоль прыязджаў у Беларусь.

У ліпені 1993 года Анатоль Сілівончык прыняў самы актыўны ўдзел у рабоце Першага з'езда беларусаў свету. Ён стаў адным з найбольш дзейных фундатараў свята, ахвяраваўшы на яго правядзенне значныя сродкі. Разам з іншымі беларусамі-бізнесменамі ўдзельнічаў у стварэнні рады прадпрымальнікаў беларускага замежжа, быў абраны намеснікам старшыні рады. Яго актыўнасць не засталася без увагі, і ўдзельнікі з'езда абралі Анатоля Сілівончыка ў склад вышэйшага кіруючага органа — рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". На Другім з'ездзе беларусаў свету ў ліпені 1997 года Анатоль быў паўторна абраны ў раду. Ён таксама быў і фундатарам гэтага з'езда.

Ягоная праца ў сферы бізнесу патрабуе ад Анатоля штодзённай увагі, многа высілкаў, але ў гэтым клапатлівым жыцці знаходзіцца месца і для іншага. З дзяцінства бацькі заклалі ў светапогляд сына глыбокую павагу да высокіх духоўных каштоўнасцей. Таму не выпадкова сталася так, што менавіта Анатоль Сілівончык апынуўся сярод тых людзей, каму рупіла справа адраджэння нацыянальных беларускіх святыняў. Калі на Першым сходзе беларусаў блізкага замежжа ўзнікла ідэя аднаўлення вобраза Крыжа святой Ефрасінні Полацкай, Анатоль Сілівончык прыняў яе блізка да сэрца. Гэта высакародная справа так захапіла яго, што, можна смела сказаць, стала галоўнаю справаю ягонага жыцця на працягу тых гадоў, калі вялася работа па аднаўленню Крыжа. Анатоль Сілівончык быў адказным ад Згуртавання "Бацькаўшчына" за правядзенне гэтай важнай работы. Анатоль вельмі адказна ставіўся да яе. Гэта быў сапраўдны духоўны ўзлёт чалавека і ў той жа час — пакутлівы шлях са сваім уласным крыжом да ўсведамлення значнасці Крыжа Боскага. Цяжкасцей у справе аднаўлення Крыжа было мноства. Здаецца, Анатоль быў абраны небам для гэтай справы. Памятаю, як распавядаў аднойчы, што падчас аднаго са сваіх шматлікіх паветраных рэйсаў з Сургута ў Мінск, яшчэ на пачатку працы, ён на працягу некалькіх хвілінаў бачыў Боскі знак: храм Ефрасінні, Крыж паказаліся яму так выразна, што ўражанне засталося назаўсёды, і гэты вобраз вёў яго да мэты.

Цяпер Крыж адноўлены і ўскладзены ў царкве святой Ефрасінні ў Полацку. Але Анатоль не лічыць справу закончанай. Зараз ён узначаліў грамадскую арганізацыю "Міжнародны дабрачынны фонд Жыватворнага Крыжа св. Ефрасінні Полацкай", плануе разам з сябрамі фонду па ўзгодненасці з Беларускай праваслаўнай царквою дапамагчы ў рэканструкцыі Свята-Ефрасіннеўскага манастыра ў Полацку, дзе калісьці жыла святая Ефрасіння. Новая праца запатрабуе вялікіх старанняў, але Анатоль поўны рашучасці, натхнёнасці. Ён дапамагае таксама адбудоўваць царкву і ў сваім горадзе.

Ведаю Анатоля ўжо больш пяці гадоў, але не перастаю здзіўляцца яго надзвычайнай працавітасці, жыццёвай актыўнасці. Зараз ён заможны чалавек, можа дазволіць сабе лепшы дабрабыт. Але ён застаецца даволі сціплым чалавекам. Найперш думае пра тое, каб скарыстаць заробленыя грошы не на раскошу, а на патрэбныя для людзей справы. Да яго часта звяртаюцца па дапамогу, і Анатоль стараецца многіх падтрымаць у добрых справах — у выданні беларускіх кніжак, у правядзенні важных мерапрыемстваў. Ён неабыякавы да штодзённых клопатаў людзей. Наведваючы родную вёску Гамза, што ў Светлагорскім раёне Гомельскай вобласці, Анатоль прыкмеціў, як цяжка стала ў апошнія гады з грамадскім транспартам. Прыгарадныя аўтобусы адмянілі, старыя людзі, адрэзаныя ад свету, дажываюць свой век без увагі. Вось і купіў ён за ўласныя грошы мікрааўтобус, наняў шафёра. Цяпер жыхары вёскі Гамза маюць свой грамадскі аўтобус, які па іх патрэбах возіць людзей да доктара, у царкву бясплатна.

Вёска Гамза, дзе нарадзіўся Анатоль, невялікая. Сёння тут амаль ужо заціхае жыццё, дзяцей мала. Добрыя гаспадары тут жылі, ды ўсё знішчана суровым часам. Хата Сілівончыкаў выдзяляецца сваёй дагледжанасцю, хоць жыве тут адна старэнькая маці — Настасся Несцераўна. Гаспадарка ў яе адметная — усё на сваім месцы, усюды вышыванкі. Пра свайго мужа ўспамінае як пра добрага гаспадара. Дзяцей — трох сыноў і дачку — выхоўвалі ў працы, вучылі ашчаднасці, гаспадарлівасці. Усе выраслі добрымі людзьмі. Ужо дарослым трагічна загінуў адзін з сыноў, які зараз ляжыць побач з бацькам на вясковых могілках. Анатоль цяпер за старэйшага ў сям'і не па ўзросту, а па шырыні тых клопатаў, што ўзяў на сябе за ўсіх сваіх родных і блізкіх. Брат і сястра жывуць таксама ў Сургуце. А маці так і не можа прывыкнуць да сібірскіх умоў, сумуе там па роднай вёсцы, а ў сваёй хаце — па родных дзецях у далёкай Сібіры. Разрываецца мацярынскае сэрца паміж імі. Такі ўжо лёс многіх беларускіх мацярок, чые дзеці вымушаны былі шукаць лепшага жыцця далёка ад сваёй зямлі, на якой так часта жылося нам непрыветна, бо не былі гаспадарамі свайго лёсу. Толькі пабываўшы ў гэтай вёсцы, можна зразумець сапраўдную існасць асобы Анатоля Сілівончыка. Тут прыходзіць усведамленне, што яго неардынарнасць, душэўная шырыня не з'явіліся на пустым месцы. Усе станоўчыя рысы яго характару маюць карані ў тым здаровым укладзе жыцця беларускай вёскі, якая захоўвала лепшыя рысы беларускага характару.

Цяпер Анатоль заняты падрыхтоўкай да стварэння беларускага таварыства ў Сургуце. Ён прыехаў у гэты горад зусім маладым, тут адбылося яго сталенне, тут ён вызначыў свой жыццёвы шлях. Сібірскі горад стаў другой радзімаю для беларускага хлопца. І Анатоль марыць аб тым, што і тут забруіцца крынічка беларускага жыцця. А пасля і шырэй можна будзе працаваць, дапамагаць аб'яднанню сваіх суродзічаў у межах усёй Цюменскай вобласці, дзе сёння жыве нямала выхадцаў з Беларусі. Анатоль горача падтрымлівае ідэю згуртавання беларусаў Сібіры. Ён лічыць, што багацце Беларусі можа прырастаць з сібірскага рэгіёна, дзе сёння ёсць магчымасці ладзіць узаемавыгадныя эканамічныя, гаспадарчыя кантакты. Заможнай, свабоднай і шчаслівай хацеў бы бачыць сваю Радзіму беларус з Сургута — Анатоль Сілівончык.

Далёкая Беларусь — гэта яго вечны клопат, захапленне, нязгасная любоў і пашана да ўсяго роднага. У сібірскім доме Анатоля — беларускія ручнікі. Любіць у святочныя дні апрануць кашулю-вышыванку, саламяны капялюш. Усё гэта яму вельмі пасуе, асабліва, калі садзіцца за руль свайго японскага "Nissana" — здольнага прайсці праз сібірскія непраходныя дарогі і тайгу. А калі наведваецца ў бацькоўскую хату, то найперш просіць маці напячы бліноў са скваркамі, зусім як у дзяцінстве. Ніякія прысмакі не заменяць яму гэтую простую сялянскую ежу. Давялося аднойчы назіраць, з якім захапленнем Анатоль прыпыніўся каля свежай пожні ля дарогі, дзе стаялі дзесяткі залаціста-жоўтых снапоў, і пачаў фатаграфаваць з дзяцінства знаёмы краявід. У гэтым — увесь характар Анатоля: спалучэнне новых сучасных падыходаў да жыцця і прыхільнасць да традыцыйна беларускага, адвечнага. Можна гаварыць пра гарманічнасць, цэласнасць асобы, у якой ёсць і высокія памкненні, і неабходная набліжанасць да рэальнага жыцця. Адным словам, ёсць усё, што патрэбна чалавеку, каб адчуваць сябе годна, быць гаспадаром свайго жыцця, а не парабкам на чужой гаспадарцы. Анатоль Сілівончык зрабіў многа добрых спраў і, верыцца, многа зробіць яшчэ для Бацькаўшчыны-Беларусі. Хацелася б толькі, каб яго добры прыклад натхняў на ахвярнае служэнне Радзіме і многіх іншых беларусаў у замежжы.

**Ганна СУРМАЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: Анатоль СІЛІВОНЧЫК з маці Настассяй Несцераўнай.**



**У віцяблянкі Вікторыі КУЛЯШОВАЙ (на здымку) незвычайная спецыяльнасць — рэгент царкоўнага хору. Працуе яна ў Свята-Успенскім храме ў Віцебску. А атрымала неабходныя веды і навыкі па благаславенню ўладыкі Дзімітрыя ў Мінскім духоўным вучылішчы.**

**Вікторыя выдатна іграе на акардэоне, баяне, фартэпіяна.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

# «КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ» № 3

Сакавіцкі нумар "Кантактаў і дыялогаў" у некалькіх найбольш грунтоўных артыкулах узнімае праблему захавання і існавання беларускай мовы для беларусаў, дзе б яны ні жылі.

Першы артыкул на гэтую тэму "Пагроза славянскім мовам — лужыцкай і беларускай" належыць пяру Эвы Жэтэльскай-Фялешка, ён узяты з будзішынскага навуковага выдання "Letopis: Casopis za rec, stawizny a kulturu Luziskich Serbow".

Сярод дванаццаці славянскіх моў дзве выклікаюць у аўтара асаблівую занепакоенасць — лужыцкая і беларуская. Нягледзячы на іх аддаленасць адна ад другой і ў геаграфічным плане, і ў іх спецыфічных моўных асаблівасцях, лёс іх у многім падобны. Першай прычынай, што ўяўляе пагрозу для захавання беларускай мовы, аўтар называе надзвычай слаба выражаную нацыянальную свядомасць насельніцтва. Эліта адукаваных людзей як у Лужыцах, так і ў Беларусі — гэта вузкае кола людзей, часта прафесійна звязаных з нацыянальнай культурай і мовай. Дзейнасць эліты нярэдка спатыкаецца аб менталітэт уласных грамадзян. І лужычане, і беларусы прывязаны да сваёй малой радзімы, але большасць першых лічаць сваёй вялікай радзімай нямецкую дзяржаву, а другіх — былы Савецкі Саюз. Лужыцкае насельніцтва ўвогуле двухмоўнае, у Беларусі — толькі адна частка двухмоўная, а другая — выключна рускамоўная. Найбольш істотнай агульнай рысай статуса лужыцкай і беларускай моваў з'яўляецца факт адсутнасці падтрымкі іх дзяржавай. Яшчэ адным агульным фактарам, што пагражае знішчэнню абедзвюх моў, аўтар называе "вынік адсутнасці дзяржаўнасці ў гэтых народаў сёння і ў мінулым". Перспектывы захавання лужыцкай і беларускай моваў могуць быць у аднолькавай ступені песімістычнымі, але ўсё ж рознымі. Перспектывы захавання беларускай мовы цесна звязаны з перспектывай ці адсутнасцю перспектывы для самастойнай беларускай дзяржавы. Ва ўмовах палітычнай залежнасці Беларусі ад Расіі і русіфікатарскіх націскаў, якім супрацьстаіць невялікая жменька эліты, а таксама пры абыякавасці або прарасійскіх настроях большасці беларусаў беларускай мове адводзіцца другарадная роля непрэстыжнай — як народнага дыялекта, які выціскаецца з ужытку ў кожным наступным пакаленні.

Аб праблемах беларускамоўнага навучання на Беласточчыне расказвае педагог, супрацоўнік аддзела адукацыі ў Бельску-Падляшскім Тамара Русачык. Яна адзначае, што, нягледзячы на цяжкасці, у беларускай асвеце на Беласточчыне няма застою. Канешне, беларуская вёска старэе. На жаль, памяншаецца колькасць школ, у якіх вывучаецца беларуская мова. Аднак аўтар з задавальненнем адзначае, што ў апошні час яны адчуваюць клопат і рэальную дапамогу з Бацькаўшчыны. Настаўнікі беларускай мовы маюць магчымасць пашыраць свае навуковыя, педагагічныя і метадычныя веды на курсах павышэння кваліфікацыі ў Мінску, штогод арганізуемыя Міністэрствам адукацыі Беларусі. Гэтае ж міністэрства фундавала падвядзенне вынікаў III Алімпіяды беларускай мовы, што адбылася на возеры Свіцязь пад Навагрудкам, у мясцінах, звязаных з імем Адама Міцкевіча. Міністэрства адукацыі ўжо трэці год прымае за свой кошт вучняў беларускіх школ з Беласточчыны на экскурсіі па Мінску і Беларусі. Беларусы з Польшчы выказваюць шчырую падзяку супрацоўнікам міністэрства Генадзю Пяцігору, Тамары Саўчук, галоўнаму рэдактару "Роднага слова" Міхасю Шавыркіну за дапамогу ў захаванні роднай мовы, мацаванні тоеснасці паміж беларусамі па абодва бакі дзяржаўнай мяжы.

І яшчэ ў адным артыкуле, змешчаным у № 3 "Кантактаў і дыялогаў", гучыць неспакой за лёс нашай шматпакутнай нацыянальнай мовы. Дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка згадвае асабісты архіўны фонд вядомага пісьменніка Сакрата Яновіча, які знаходзіцца ў музеі і з'яўляецца невычэрпнай крыніцай для вывучэння літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага жыцця Беларусі і Польшчы на працягу амаль саракагадовага перыяду. Архіўны фонд пісьменніка прайшоў навуковую апрацоўку, што дало магчымасць сфарміраваць 493 справы, якія ахапілі перыяд з 1944 да 1994 года і ўвабралі ў сябе 3 276 дакументаў. Акрамя жыцця і творчасці пісьменніка, дзякуючы яго архіўнаму фонду, можна даследаваць некалькі самастойных, але ўзаемазвязаных тэм. Адна з іх — "Праблемы беларускай мовы і беларускай асветы". Боль за родную мову, за яе лёс пранізвае ўсю творчасць Сакрата Яновіча. "Беднаму ўсё вецер у вочы: з беларускай культуры дапускалася да публічнага ўжытку тое ўсяго, чаго ўжо аніяк, ніякімі прынцыпамі, нельга было забараніць. Даведзена да мяжы самога грамадскага запярэчання беларушчыны, бо як іначай зразумець факт: некалькі сот вучняў у беларускіх класах у звышмільённым Мінску, сталіцы?.. Генацыд, які дапушчаны ў дачыненні да беларускай культуры, успрымаецца ў жанры "чорнай байкі", настолькі супраціўны ён проста розуму ды псіхічнай нармальнасці", — пісаў ён у газету "Літаратура і мастацтва" 6 жніўня 1988 года.

З іншых матэрыялаў часопіс пад рубрыкай "Беларускае замежжа" расказвае пра беларусаў у Эстоніі, пра паэтэсу Іну Снарскую, якая жыве на Украіне, пра беларусістку Ілгу Апіня з Латвіі. Змешчаны рэцэнзіі на зарубежныя кнігі, у якіх расказваецца пра Беларусь.

**Д. Ч.**

БРАВА, ТАЦЦЯНА ВАЛОШЫНА!

# ПЕСНЯ НАСТРОЙ СТВАРАЕ



## 1. СВЯТА ХАРАВОЙ ПЕСНІ

Мне ў душу запаў сольны канцэрт узорнага хору "Дружба" 1-й мінскай школы, той канцэрт, які адбыўся напрадвесні ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Ён прайшоў з аншлагам і запомніўся многім прыхільнікам мастацтва як цудоўнае, на рэдкасць зладжанае свята харавой песні, свята музыкі. У першым аддзяленні выконвалася "Меса" Міхаэля Гайдна, брата славутага аўстрыйскага кампазітара Франца Іозефа Гайдна. Дзеці спявалі "Месу" на мове арыгінала. Дырыжыраваў мастацкі кіраўнік камернага хору Мінскай вобласці "Санорус" Аляксей Шут. У другім аддзяленні шматлікай публіцы была прадстаўлена дырыжор "Дружбы" Таццяна Валошына, для якой памянёны канцэрт стаўся юбілейным, бо яшчэ ў 1968 годзе яна, у той час студэнтка кансерваторыі, павяла харавую справу ў школе. У гэты вечар і Таццяна Валошына, і яе выхаванцы, і канцэртмайстры Алена Будай і Вольга Юшкевіч на вялікай сцэне канцэртнай залы філармоніі працавалі асабліва натхнёна. Прысутныя маглі пераканацца, што школьны калектыў нездарма носіць назву "Дружба", ён на справе ўвасабляе сабой дружбу і любоў, лепшыя чалавечыя якасці. Цікава, што вакальныя творы выконваліся на беларускай, нямецкай, англійскай, польскай і рускай мовах. Хораша гучалі, да прыкладу, творы Р. Шумана з вядомага цыкла "Каханне паэта" на словы Г. Гейнэ ("У ззянні цёплых майскіх дзён", "Вянок духмяных кветак", "Я не злуюся"), "Ціхая ноч" Грубера, "Бялее ветразь адзінокі" А. Варламава на словы М. Лермантава. Заўважу, што ў класічную канцэртную праграму арганічна ўвайшла адна з самых вытанчаных лірычных беларускіх народных песень "Ой сівы конь бяжыць" у апрацоўцы Мікалая Сіраты, а таксама песня У. Алоўнікава на словы А. Бачылы "Радзіма мая дарагая".

Вёў праграму ўлюбёны ў музычнае мастацтва дыктар беларускага радыё, вядомы філарманічны вядучы Уладзімір Шэліхін. Словам, усё было добра прадумана, каб вечар удаўся. А тое, што ён атрымаўся, засведчылі шчырыя і дружныя апладысменты, воклічы захаплення "Брава!", шчодрыя букеты кветак.

І фінал гэтага свята быў прыгожы, хвалюючы, памятны. Таццяну Валошыну і яе "Дружбу" віншавалі "Пунсовыя ветразі" і іх "капітан" Уладзімір Лой (13-я школа г. Мінска), узорны хор "Элегія" (43-я школа г. Мінска) і яе мастацкі кіраўнік і дырыжор Таццяна Грышукевіч. Гэтыя калектывы прысвяцілі хору-юбіляру свае пранікнёныя словы і песні. Затым на сцэну выйшаў знакаміты патрыярх харавой песні Віктар Роўда. Ён дырыжыраваў зводным хорам трох школ, цёпла вітаў галоўную віноўніцу ўрачыстасцяў Таццяну Валошыну. А яна і на вяршыні ўшанавання, заслужанай славы заставалася сціплай і ўдзячнай дарагім ёй людзям — цудоўным былым настаўнікам, калегам-музыкам, гасцям... І так прыемна было бачыць, як гарманічна спалучаецца ў чалавеку хараство вонкавае з душэўным, глыбінным! Вось гэтая сапраўдная чалавечая прыгажосць Таццяны Віктараўны, яе любоў да людзей і мастацтва надавалі святу харавой песні асаблівую цеплыню, утульнасць. Міжвольна згадвалася даўно чутае і надоўга прызабытае чыёсьці выслоўе, што з аднаго пачуцця бяруць свой пачатак мастацтва і дабрадзейнасць. Потым я лавіў сябе на думцы, што даўно ведаю Таццяну Валошыну. Дык чаму не расказаць пра яе людзям?!

## 2. ПАЧЫНАЕЦЦА ЎСЁ З ЛЮБОВІ

Кожны раз, калі я прысутнічаў на канцэрце, дырыжор з яго мовай рук, твару, вачэй здаваўся мне асобай загадкавай, таямнічай. А імя Таццяна перагукалася з самой таямнічасцю. Аднаго разу я пацікавіўся, як яна абрала гэтую незвычайную прафесію і што сталася тут вызначальным — прыклад, парада, інтуіцыя?

— Усё гэта не выключана, — адказала яна. — Але вызначыла маю дарогу любоў да музыкі і спеваў.

Спачатку была музычная школа ў роднай Лідзе, клас скрыпкі. Выбар музычнага накірунку, смелая гатоўнасць авалодаць царыцай музыкі — гэта прыйшло пад уплывам сям'і. У радні па лініі бацькі выявіліся самародкі: апроч дзеда Аляксандра, дзядзька Раман, які іграе на многіх інструментах, цудоўна спявае. На акардэоне іграў бацька. Брат Яраслаў скончыў музычную школу, авалодаў баянам і электрамузычным інструментам. Так што расла Таня і выхоўвалася як асоба ў атмасферы любові да музыкі і песні.

У музычнай школе Таню адразу заўважылі як вельмі старанную і здольную вучаніцу. А на далейшы выбар шляху падзейнічала парада выкладчыцы З. Кражавай, і юная Таццяна падалася ў Гродзенскае музпедвучылішча на аддзяленне харавога дырыжыравання. Прапанову настаўніцы яна прыняла без ваганняў, бо змалку любіла калектыўную творчасць, у школе заўсёды займалася культурна-масавай работай.

Развітанне ў 15 гадоў з родным кутком, з бацькоўскім гняздом навявала лёгкі смутак, але наперадзе была радасць новых ведаў, адкрыццё нязнаных дарог і сцяжынак у вучобе і жыцці і радасць вяртання дадому хоць бы на час канікулаў, непаўторнае шчасце сустрэч з роднымі.

Не танцпляцоўкі, не рэстараны і не марнатраўныя кампаніі вабілі юную прыгажуню. Каб займець паўнацэнную сярэднюю адукацыю, яна паралельна з вучылішчам заканчвала вячэрнюю школу. Адначасова раз на тыдзень выкладала спевы ў 11-й школе, а яшчэ кіравала мастацкай самадзейнасцю на фабрыцы дзіцячай цацкі і галантарэі (не хацела браць матэрыяльную дапамогу ад сваіх родных: тады ім жылося цяжка). Нездарма кажуць, што самая складаная прафесія — быць чалавекам. Можна гэтую думку тлумачыць па-рознаму, напрыклад, так: калі ты чалавек сумленны, пастараешся сваімі праблемамі не абцяжарваць жыццё бліжняга, а ў любых абставінах жыць па законах красы, дабрыні, любові.

## 3. МЭТА І СЭНС ЖЫЦЦЯ

У Таццяны была мэта, цудоўная, высакародная, што вынікала з вялікай любові да людзей і мастацтва. Яна хацела як хутчэй спасцігнуць майстэрства дырыжора і методыку мастацкага кіраўніка, стаць класным спецыялістам, гарманічна злучаць магчымасці мастацтва і педагогікі, каб вучыць дзяцей, сілкаваць іх душы невычэрпнай станоўчай энергіяй, якую тояць у сабе музыка, харавая песня. Прыклад такога служэння яна бачыла штодня — узорам служыў Таццянін выкладчык і дырыжор С. Мачалаў.

— Сяргей Сяргеевіч быў для мяне свяцілам першай велічыні, — успамінае Таццяна Віктараўна. — Выдатны спецыяліст, ён змог раскрыць ва ўсёй красе цудоўны свет музыкі, мной абранай прафесіі, даў неабходныя навыкі, узбагаціў імкненнем пашыраць свае веды, чым заўсёды вылучаўся сам.

Гродзенскае вучылішча сталася для Таццяны прыступкай перад Беларускай дзяржаўнай кансерваторыяй, пра якую яна марыла даўно і ў якую паступіла, скончыўшы на выдатна ў 1967 годзе вучылішча. Прыехала дзяўчына ў Мінск у святочны дзень: сталіца салютавала ў гонар свайго 900-годдзя. Урачысты настрой апанаваў і яе, але вялікае жаданне вучыцца ў вышэйшай музычнай установе злівалася ў юнай душы з адвечнай і запаветнай любоўю да будзённых дзён і вечароў, да такой звычнай паўсядзённай працы.

— У кансерваторыі, — гаворыць Таццяна Валошына, — мне пашанцавала вучыцца ў такіх майстроў харавой справы, як В. Роўда, Г. Залянкова і М. Хвісюк. Настаўнікаў з вялікай літары.

Акрыленая поспехамі Таццяна ў сталіцы, як і ў Гродне, памкнулася да дзейнасці, каб злучыць свае тэарэтычныя пазнанні з жывой практыкай, праверыць сваё ўменне. Тады лёс і прывёў яе, першакурсніцу, да першай на Беларусі харавой студыі СШ № 1 г. Мінска.

За тры дзесяткі гадоў у яе тут былі толькі два невялічкія перапынкі ў рабоце. Калі я запытаўся ў Таццяны Віктараўны, што яе столькі часу трымае ў адной установе, якую, між іншым, ці мала хто пакінуў у пошуку большай зарплаты, яна не без захаплення гаварыла пра ўстойлівыя традыцыі ў школе, працавіты калектыў, сяброўак, былых выпускнікоў, якія пасля школы атрымалі музычную адукацыю і вяртаюцца сюды добрымі спецыялістамі.

Адчувалася, мая суразмоўніца ганарыцца педагогамі-спецыялістамі, якія маюць непасрэднае дачыненне да музычнай адукацыі і эстэтычнага выхавання школьнікаў. Асаблівае пачуццё радасці ў яе выклікаюць былыя вучні, якія ўжо дараслі да настаўніцкай прафесіі.

## 4. «МНАГАГРАННЫ ЖЫВЫ ІНСТРУМЕНТ»

У хоры — 70 школьнікаў — ад пятага класа па адзінаццаты.

— Хор шматгалосы, — сказала Таццяна Віктараўна, калі я папрасіў даць яму характарыстыку. — Спяваем часта на тры-чатыры галасы, а часам на шэсць і сем.

— Гэта ж так складана! — мне хацелася завязаць гутарку. — Хіба вашыя харысты — вундэркінды?

— Добрыя песні спрыяюць поспеху, стымулююць яго.

— Можна падумаць, што не існуе падлеткавай гультаяватасці, свавольства ці, скажам, комплексу непаўнацэннасці, іншых заганаў у характарах дзяцей... — стараўся я пачуць штосьці істотнае пра жыццядзейнасць немалога калектыву, адкрыць нейкія сакрэты калектыўнай творчасці.

У адказ я пачуў невялічкі маналог:

— Разумею... Хор — складаны, мнагагранны жывы інструмент. У абавязкі дырыжора ўваходзіць найперш яго настройка, а пасля — увесь комплекс вакальна-харавых задач. Для нармальнай яго работы, як паветра, неабходны і па-сямейнаму цёплая атмасфера ў калектыве, і вялікі энтузіязм як кіраўніка, так і харыстаў. Тут старэйшыя, больш вопытныя, памагаюць малодшым, пачуццё таварыскасці, сяброўскага локця знаёмае ўсім. Канцэрты — вяршыня нашай музычна-харавой дзейнасці, што грунтуецца на выхаваўчай, арганізатарскай, прапагандысцкай рабоце. Каб падараваць публіцы святочны настрой і займець яго самім, трэба сутыкнуцца з морам цяжкай будзённай працы. Бываюць моманты, калі проста апускаюцца рукі. Але пасля ўдалага канцэрта ці нават пераадоленага на рэпетыцыі цяжкага месца ў творы зноў атрымліваеш эмацыянальны зарад для паўсядзённай карпатлівай працы. Няма канцэртаў нязначных. Важна толькі памятаць на кожным, што жыццё без песні, гэтага сімбіёзу музыкі і паэзіі, шэрае і непаўнацэннае.

Карцела пачуць самае істотнае, і я запытаўся:

— Якое значэнне мае для вас падбор рэпертуару?

Мне падалося, Таццяна Віктараўна даўно чакала такое пытанне.

— Выключна важнае, асаблівае, — гаварыла яна. — Песня — неад'емная частка культуры народа. З гэтай духоўнай скарбніцы, з залатога спадчыннага фонду важна ўзяць тое, што ўзбагачае душы і слухачоў, і выканаўцаў. Спяваем шмат харавых мініяцюр з класікі, сучасных аўтараў, творы кантатна-аратарыяльнага жанру. Але па-ранейшаму застаюцца праблемы з падборам беларускага матэрыялу; вельмі рэдка з такімі творамі сталі запісвацца на радыё, тэлебачанні. Мала пішуць для дзяцей нашы кампазітары, не дужа ўлічваюць яны школьны ўзрост выканаўцаў, калі бяруцца за апрацоўку народных песень: часцей за ўсё апрацоўваюць любоўную лірыку. Тут вельмі важна самому дырыжору мець унутраны ўзор сапраўднага мастацтва, каб не апускацца да ўзроўню нявыхаваных густаў часткі слухачоў. Музычна-спеўнае мастацтва стварае атмасферу свята, аднак яно — не забава.

— Як вядома, школьны хор штогод абнаўляецца, — заўважыў я. — Як жа пастаянная зменяльнасць яго ўдзельнікаў адбіваецца на працы?

І вось што пачуў у адказ:

— Часам, калі адыходзіць вялікая група падрыхтаваных, табой навучаных дзяцей, такіх ужо родных, дык здаецца, што ўсё разваліцца, хор ужо ніколі гучаць не будзе. Тады з падвоенай энергіяй пачынаеш рыхтаваць навічкоў-пяцікласнікаў. Іх багаж пакуль слабы, а трэба падняць "залаты" фонд рэпертуару. За год дзеці вучаць да 50 твораў — цяжка і ім, і кіраўніку. Але і тут спрацоўвае галоўны стымул — нашы канцэрты.

Калі дырыжор параўноўвала хор з мнагагранным жывым інструментам, я шукаў сваё параўнанне і знайшоў — я параўнаў "Дружбу" з пышнай жывой клумбай хрызантэм. І нічога, што, любуючыся імі, людзі звычайна не думаюць, як цяжка іх вырошчваць, узнімаць да сонца такое хараство.

## 5. ДЗЕНЬ ДОБРЫ, ЗАМЕЖЖА!

Аднойчы я задаў сам сабе пытанне: "Што б я сказаў пра Т. Валошыну і яе "Дружбу" ў вершаванай форме мінімальнай колькасцю радкоў і слоў?" Адказ знайшоўся імгненна:

**Песняй настрой стварае,**
**"Дружбаю" свет скарае.**

Разумею, што "свет скарае" — крыху перабольшана. Але гіпербала ў вершах — з'ява нармальная. Дый галоўнае тут слова не "свет", а — "скарае". Свет жа не азначае — увесь свет. Я маю на ўвазе паспяховыя выступленні як на радзіме, так і за мяжой. Хай сабе замежных паездак было не так многа, як бы хацелася, але яны сталіся яскравымі падзеямі ў біяграфіі хору. У трох еўрапейскіх краінах пабывала Таццяна Валошына з калектывам: у Польшчы, Германіі ды Італіі. І ў кожным выпадку павінен быў сустрэцца чуйны чалавек, які паспрыяў бы наладзіць патрэбныя кантакты.

— Мы некалькі разоў пабывалі ў Польшчы, — распавядае Таццяна Віктараўна. — Нас прымалі і Варшава, і Вісла, і Закапанэ, і ўсё — дзякуючы пану Генрыху Цюку, які стаў для нас блізкім сябрам. Гэты чалавек дужа ўразіў нас сваім энтузіязмам, энергіяй, якая здавалася бязмежнаю. А калі ўлічыць, што наш сябра — інвалід, які перамяшчаецца з дапамогаю двух кійкоў, дык зразумела, што яго бескарыслівая нам дапамога — подзвіг.

Таццяна Віктараўна называе Г. Цюка Чалавекам з вялікай літары. Яна расказала мне і пра ўрок міласэрнасці, які атрымалі дзеці, спяваючы любімыя творы спадара Генрыха з свайго рэпертуару ў бальніцы ў Варшаве, калі наведалі старэйшага сябра ў яго пасляаперацыйны перыяд праездам у Германію.

— Мы вельмі радаваліся, што да пана Генрыха зноў вярнулася ўсмешка, — успамінае Таццяна Валошына. — Дарэчы, ордэн Усмешкі быў уручаны яму якраз нашым калектывам "Дружба". Шкада, што цяпер ён зноў хварэе.

У Нямеччыне "Дружба" пабывала дзякуючы Вольфгангу Кернеру, арганісту, які выкладае музыку ў горадзе Аўгсбургу. З ім Т. Валошыну пазнаёміў А. Шут, мастацкі кіраўнік камернага хору "Санорус".

У Германіі хор "Дружба" выступаў пераважна ў цэрквах, дзе ідэальная акустыка. Там выконваліся не толькі духоўныя творы, але і ўвесь падрыхтаваны рэпертуар. Прыём быў самы цёплы і шчыры. Жылі ў сем'ях аркестрантаў. Потым прымалі нямецкіх сяброў у Мінску. Такія сустрэчы незабыўныя.

Дарога ў Італію адкрылася дзякуючы знаёмству са спадаром Амількарэ Тасоці і работніку нашага Дома дружбы Леаніду Бароўскаму, "віноўніку" таго знаёмства.

Я пацікавіўся ў Таццяны Віктараўны, што, акрамя радасці сяброўства, прыносяць калектыву паездкі за межы краіны і ці існуе ўвогуле цяпер такая раскоша. Яна спаслалася на заснавальніка харавых студый на абшарах былога Саюза Г. Струве, які сцвярджае: "Не было б паездак — не было б хору". Ясна, што паездкі — цудоўны стымул у рабоце. Тут не толькі магчымасць паказаць плён сваёй працы, а і даведацца нешта цікавае пра горад, краіну, народ, гісторыю, культуру, побыт гэтага народа.

— У дарозе і ў чужым краі так важна праявіць свае лепшыя якасці — камунікабельнасць, акуратнасць, далікатнасць, павагу да чужых традыцый, настроіць сябе на хвалю пазнавальнасці, — гаворыць мая суразмоўніца. — Гэта няпроста, калі ўлічыць і моўны бар'ер, і адсутнасць дарослых, блізкіх, іх апякунства, да якога надта прывыклі дзеці. Затое як прыемна атрымліваць нават самыя маленькія перамогі над сабой! І колькі размоў у зваротнай дарозе, а тым больш дома, пасля вяртання.

Замежныя гастролі, натуральна, цікавыя і карысныя не толькі школьным артыстам, але і іх кіраўніку. Тут яна па-сапраўднаму пазнае дзяцей, тут знаходзіць радасць працы ў зусім іншых умовах, пашырае далягляды дружбы, узбагачаецца ўражаннямі. Удалыя канцэрты ў замежжы, як, зрэшты, і ў сваёй краіне, павышаюць аўтарытэт "Дружбы", дадаюць дзецям гонару за свой калектыў, стымулююць новыя поспехі. Дый сама дальняя дарога надта патрэбная, проста незаменная іншы раз для душы. Яна і мелодыя, і адпачынак ад будзёншчыны, і пачатак перамен, і часам так неабходная разрадка! Паездка ў Італію прынесла Таццяне Валошынай пэўную палёгку пасля цяжкіх удараў лёсу, калі амаль за адзін год памерлі бацька і маці. Яна лічыла сябе чалавекам моцным, але горам была надоўга выбіта з каляіны...

Калі мы разгаманіліся з Таццянай Віктараўнай, высветлілася, што амаль усе замежныя паездкі хору ажыццяўляліся не ў апошнія гады, а раней, а гэта азначае, што ўсе меншыя артысты, якіх у хоры нямала, у іх не ўдзельнічалі. Вельмі дарэчы былі б калектыву такія гастролі сёлета: ім, як ніколі раней, падрыхтавана цікавая і вялікая праграма, але, як ні крыўдна, цяпер ніхто нікуды не запрашае. А раптам гэты артыкул дапаможа "Дружбе" знайсці новых шчырых дружбакоў, завязаць новыя кантакты?!

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# ЯГО ЦАНІЎ ШАЛЯПІН

...Колькі талентаў звялося,
Колькі іх і дзе ляжыць,
Невядомых, непрызнаных,
Не аплаканых нікім...

Гэтыя радкі з паэмы Я. Коласа "Сымон-музыка" прыходзяць на памяць, калі прыгадваеш ураджэнцаў Лагойска братоў Селяхаў. Вячаслаў быў выдатным дзеячам тэатральнага мастацтва: артыст, рэжысёр, здольны арганізатар і педагог, а пра Яўстафія звестак амаль не захавалася. Вядома толькі, што ён быў намеснікам першага дырэктара Дзяржаўнага тэатра оперы і балета Беларусі і незаконна рэпрэсіраваны.



Вячаслаў жа Антонавіч Селях нарадзіўся 25 снежня 1885 года ў Лагойску. Скончыў пачатковую школу, а ў 1905 годзе — Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Як і старэйшы брат, настаўнічаў у Лагойску. Браты Селяхі ўваходзілі ў састаў рэвалюцыйнага гуртка, члены якога трымалі сувязь з сацыял-дэмакратычнай арганізацыяй Мінска, атрымлівалі ад яе нелегальную літаратуру, вялі прапаганду сярод насельніцтва і мелі прамое дачыненне да сялянскага бунту ў Лагойску ў 1905 годзе.

Перажыўшы праследаванні і нягоды, Вячаслаў Селях у 1910 годзе паступіў на вучобу ў оперны клас Пецярбургскай кансерваторыі. Пасля яе заканчэння ён прайшоў яшчэ курс навучання ў музычна-драматычным інстытуце, а ў 1915 годзе Вячаслаў Антонавіч вытрымаў вялікі конкурс і быў прыняты артыстам у Марыінскі імператарскі тэатр Пецярбурга. Тут ён выступаў у операх "Князь Ігар", "Дэман", "Рыгалета", "Барыс Гадуноў", а ў оперы "Хаваншчына" Мусаргскага спяваў сумесна са славутым Фёдарам Шаляпіным. У 1918—1920 гадах яны разам адпачывалі ў Гатчыне пад Пецярбургам. Шаляпін высока цаніў талент В. Селяха, нават аднойчы выказаўся так: "Помни, Селяшка, когда я умру, только ты сможешь меня заменить".

У 1922 годзе Вячаслаў Селях пераехаў у Мінск, дзе быў прызначаны першым дырэктарам Беларускага драматычнага тэатра імя Я. Купалы (БДТ-1). Тут ён арганізаваў капэлу ў складзе 50 спевакоў, куды ўліўся і хор ад вандроўнага тэатра Уладзіслава Галубка. Працаваў выкладчыкам, а затым завучам Беларускага музычна-драматычнага тэхнікума (Мінскае музычнае вучылішча імя Глінкі). З 1925 па 1927 год узначальваў камісію нацыянальнага беларускага танца ў Інстытуце беларускай культуры (Інбелкульт). Барыс Сачанка ў кнізе "Сняцца сны аб Беларусі" паведамляе, што Вячаславу Селяху было прысвоена званне народнага артыста БССР.

У тагачасным тэатральным асяроддзі Селях быў неаспрэчным аўтарытэтам, меў шырокую папулярнасць. Сваім мілагучным барытонам зачароўваў публіку. Проста і адкрыта выказваў свае думкі, не цярпеў хлусні і фальшу. У 1930 годзе В. Селях зноў едзе на працу ў горад на Няве, у той жа Марыінскі тэатр. Праз тры гады ён стаў ахвярай сталінскіх рэпрэсій. Свой 10-гадовы тэрмін зняволення адбываў у неверагодна цяжкіх умовах пад Псковам. Калі тэрыторыя была занята немцамі, вяртаецца ў акупіраваны Мінск. Некаторы час быў кіраўніком гарадскога тэатра, затым узначальваў аддзел культуры і мастацтва Беларускай самапомачы.

Апынуўшыся пасля вайны ў Германіі, у так званых "лагерах для перамешчаных асоба", Селях не пакідае думкі пра мастацтва. У Берліне паставіў п'есу "Растрачанае жыццё" Хвёдара Лебяды (сапраўднае прозвішча — Пятро Шыракоў). Для стваранай ім капэлы выкарыстоўваў творы са зборніка кампазітара Міколы Равенскага. З яго прыпамінаюцца надзвычай добрыя песні: "Ня стой, каліна", "Як стаяла белая бяроза", "Зіма", але і словы, і музыка-мелодыі ўжо забыліся. У сувязі з падрыхтоўкай спеўніка артыст успомніў звыш 40 мелодый старадаўніх песень. Напрыклад, вядомая ў канцы мінулага стагоддзя "Ах ты воля, мая воля", складзеная з нагоды рэформы Аляксандра II аб адмене прыгону. Або яшчэ мелодыя песні пра лёс Напалеона "Па сініх хвалях акіяна" і шмат іншых рускіх, украінскіх, а крыху і тагачасных беларускіх, якія спяваў Агрэнеў Славянскі — "Ці ня дудка мая", "Былі ў бацькі тры сыны" (арыгінал тэксту захоўваецца ў архіве фундацыі імя П. Крэчэўскага).

У 1950 годзе пераязджае ў Злучаныя Штаты Амерыкі. У штаце Нью-Джэрсі (паблізу Нью-Йорка) заснаваў драматычны тэатр-студыю і народны хор, ладзіў спектаклі і канцэрты. У 1971 годзе, незадоўга да сваёй смерці, Селях-Качанскі разам са спадаром Мядзэйкам працаваў над укладаннем спеўніка, які быў выдадзены ў 1975 годзе пад назвай "Спеўнік беларускіх салдат".

Вячаслаў Селях-Качанскі заставаўся верным свайму прызванню да канца дзён. Памёр у дзевяностагадовым узросце, у 1976 годзе.

**Савелій АКУЛІЧ.**

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ — ЗНАЧЫЦЬ, ПЕРШЫ

**(Заканчэнне.**
**Пачатак на 1-й стар.).**

менавіта там, на перыферыі. Праблем паўстае досыць, і адна з галоўных — як ажывіць работу гэтых культурных асяродкаў, бо так і будуць людзі казаць пра "музеі пыл".

**— Але ж тут, у сталіцы, здаецца, культурнае жыццё ў залах музея не заціхае. Вось і зараз, калі мы з вамі размаўляем, у галоўным фае ідзе канцэрт класічнай музыкі, афіша каля ўваходу запрашае наведаць выставу нямецкага мастака Макса Эрнста...**

— За апошнія музей удзячны Інстытуту Гётэ, які аказаў істотную дапамогу. А дакладней, яны ўсё аплацілі, нам жа засталося толькі развесіць карціны на сценах.

Зараз фарміруецца план выставачнай дзейнасці на наступны год, і палітыка тут простая: у Нацыянальным музеі ўсе экспазіцыі павінны быць вельмі якаснымі, я б сказаў, салідныімі — як свае, мясцовыя, так і замежныя. Калі ў першым выпадку ўсё залежыць толькі ад нас, то ў другім — трэба наладжваць цесныя сувязі з пасольствамі, асобнымі музеямі і галерэямі. Я лічу: любы нацыянальны музей у любой краіне абавязаны высока трымаць планку, там выпадковых, другарадных выстаў і блізка не павінна прысутнічаць.

**— А як быць з маладымі мастакамі, эксперыментатарамі? У іх таксама ёсць вельмі цікавыя, таленавітыя работы.**

— У нас зараз створаны новы музей — сучаснага мастацтва. Мне падаецца, менавіта ў ім і сфарміруецца асноўны "дом" усіх тых творцаў, якіх вы згадалі.

**— Якія ж вашы найпершыя планы!**

— Мы вельмі хацелі б нарэшце паказаць шырокай аўдыторыі нашы фонды, дзе захоўваюцца сапраўдныя скарбы беларускай культуры і мастацтва: зрабіць выставы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, іконы і г. д. Гэтыя экспазіцыі цікавыя ўдвая: наведвальнік атрымае асалоду ад сустрэчы з прыгожымі, высокаэстэтычнымі рэчамі і, падругое, далучыцца да ўласнай гісторыі, лепш зразумее карані Бацькаўшчыны, а значыць, і свае, уласныя.

**— Усялякая каштоўная мастацкая выстава ў той жа час і значная матэрыяльная каштоўнасць. Калі ў музея няма сродкаў, каб самастойна арганізаваць дарагую замежную экспазіцыю, то ці хопіць грошай, каб забяспечыць надзейную ахову прывезенага за кошт "спонсараў"?**

— У нас абавязкова ёсць ахова, і, дзякуй Богу, пакуль ніякіх сур'ёзных інцыдэнтаў на гэтай глебе не здаралася. Дзяжурыць міліцэйскі пост, і, скажам, позна ўвечары нават я, дырэктар, не магу проста так трапіць у музей. Мы ставімся да аховы вельмі адказна, бо гэта не толькі рэпутацыя музея, гэта і імідж краіны ўвогуле.

**— Добра, ад злачынцаў вы неяк сябе засцераглі, але ці не здарыцца так: дзе не дасталі рукі злодзея, зробяць сваю чорную справу час і неспрыяльныя ўмовы захоўвання, балазе, падобных прыкладаў у нашай небагатай краіне хапае!**

— Сапраўды, сёння гэта, бадай, самае балючае для нас пытанне. У музея катастрафічна не хапае экспазіцыйнай плошчы, а таму шмат твораў мастацтва захоўваецца ў, скажам так, не зусім прыстасаваных умовах тэмпературнага рэжыму. Матэрыяльны знос будынка перавысіў усе магчымыя і немагчымыя паказчыкі, і ён патрабуе тэрміновай рэканструкцыі. Зараз ўзводзіцца дадатковы корпус музея. Як толькі работа завершыцца, часова ўсе пяройдзем туды, а ў старых залах пачнецца рамонт.

Дарэчы, каб пазбегнуць пашкоджання экспанатаў, хоць неяк разгрузіць сховішча, мы былі вымушаны частку прац аддаць на часовае захоўванне ў розныя афіцыйныя адміністрацыйныя будынкі Беларусі: Адміністрацыі Прэзідэнта, Савета Міністраў, Міністэрства культуры.

**— Гэта значыць, недзе там схаваць ці развесіць па сценах!**

— Развесіць па сценах.

**— І вы спадзеяцеся ўсё вярнуць назад!**

— Канешне. Дзеля гэтага нават заключана спецыяльная дамова.

**— А як жа наконт захаванасці твораў мастацтва! Ці не "ўплывуць" цішком адтуль карціны!**

— У памяшканнях Адміністрацыі Прэзідэнта і Савета Міністраў аховы дастаткова. А творы адабраны звычайна вялікіх памераў, такія, што ў сумку ці "дыпламат" не пакладзеш. Ды і час ад часу нашы супрацоўнікі праводзяць інвентарызацыю. Акрамя таго, магу запэўніць: там няма гістарычных палотнаў. Так што можна не хвалявацца, усё ў парадку. Пазней, калі з'явяцца ўмовы, карціны вернуцца "дадому", бо гэта таксама частка нашага асноўнага фонду. А на іх месца гаспадары кабінетаў маюць магчымасць заказаць у мастакоў спецыяльныя работы, падабраныя адпаведна інтэр'ерам, густам і пажаданням. І таму, калі да мяне звяртаюцца з просьбаю "ахвяраваць" тыя ці іншыя палотны на "дзяржаўныя патрэбы" — напрыклад, пасольствы, я адмаўляю. Нехай заказваюць і мастакоў тым самым падтрымаюць.

**— Ці мае права музей сам нешта прадаваць з уласных фондаў?**

— Пакуль у нас у краіне такой магчымасці няма. Але, лічу, дарма. Па-першае, музей не гумавы. За савецкія часы ў запасніках скапілася шмат работ, якія можна было б і прадаць. Як, дарэчы, гэта робіцца ў многіх музеях свету. Музей — не сховішча работ, ён жывы арганізм, які пастаянна знаходзіцца ў руху і развіцці. Спадзяюся, калісьці і мы зможам нешта прадаць і за кошт гэтага набыць цікавыя для Беларусі экспанаты, у тым ліку і за мяжой. Нядаўна супрацоўнікі музея выязджалі ў Расію, дзе адна з галерэй прапануе творы Бяльніцкага-Бірулі, аднак пакуль грошай на іх набыццё ў нас няма.

Дарэчы, цывілізавана наладжаны працэс гандлю творамі мастацтва дасць магчымасць і нашым мастакам прадаваць свае працы адпаведна іх сапраўднай вартасці, а не збываць за капейкі заезджым пакупнікам, якія потым на гэтым нажываюцца. Сітуацыя тут пакуль вельмі складаная.

**— Цікава, а што вам як дырэктару сёння вельмі-вельмі хацелася б набыць?**

— У маі 2000-га года адзначаецца двухсотгоддзе з дня нараджэння В. Ваньковіча. Плануецца ўжо ў гэтым годзе адкрыць у Мінску Дом-музей выдатнага дзеяча (будаўнічыя работы тут хутка завершацца), правесці шэраг юбілейных мерапрыемстваў, але, цяжка паверыць, мы не маем ніводнага (!) арыгінала мастака. Усё вывезена і захоўваецца ў музеях Польшчы і Літвы. Калі зараз весці перамовы аб пакупцы твораў — зноў-такі не хапае грошай. Пакуль плануем выдаць каталог прац Ваньковіча, а бліжэй да юбілею, спадзяюся, нешта яшчэ знойдзецца.

**— А як наконт расійскіх эцюдаў Бяльніцкага-Бірулі!**

— Сёння цяжка нешта пэўнае сказаць. Кожны каштуе 10—12 тысяч долараў ЗША. Канешне, вельмі хацелася б іх атрымаць. Тым больш, што мы маем вялікі філіял у Магілёве. Дарэчы, летась адзначалася 125-годдзе з дня нараджэння мастака. Усё прайшло вельмі прыгожа. Адбыўся Другі міжнародны пленэр, прысвечаны памяці В. Бяльніцкага-Бірулі. Безумоўна, было б добра мець поўны збор яго твораў менавіта на Радзіме.

**— А ці шмат іх "блукае" па свеце!**

— Шмат, асабліва ў Расіі, дзе ён жыў і тварыў.

**— Уладзімір Іванавіч, звернемся да іншых вашых дырэктарскіх праблем, можа, не такіх творчых, але не менш важных. Вядома, што ў работнікаў культуры, а музейных асабліва, вельмі сціплая заработная плата. Ці "не бягуць" ад вас кваліфікаваныя кадры!**

— У музеі выпадковых людзей няма, таму трымаюць нікога не прыходзіцца, хаця зарплата, сапраўды, знаходзіцца на апошнім месцы сярод іншых катэгорый працоўных. Але практычна ўсе нашы спецыялісты проста не могуць уявіць сябе без сваёй працы, яны яе любяць. І гэтым усё тлумачыцца. У нас нават ёсць сямейныя дынастыі. Асобна хочацца згадаць маіх папярэднікаў, сапраўдных карыфеяў музейнай справы — Алену Аладаву і Юрыя Карачуна. Менавіта дзякуючы іх таленту, энергіі і самааддананасці, Беларусь можа ганарыцца сваім галоўным музеем. У бытнасць СССР ён уваходзіў у пяцёрку найбуйнейшых, такім застаўся і сёння, толькі ўжо ў межах Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Ёсць у нас і еўрапейскі аўтарытэт. Іншая справа, крыху "адзежа" знасілася — знешні выгляд будынкаў, залаў патрабуе рэканструкцыі, не хапае сучаснага абсталявання. Але нягледзячы ні на што, сёлета музей (і мы ўсе разам з ім) адзначыць сваё 60-годдзе і спадзяецца на доўгае-доўгае цікавае жыццё.

**Гутарку вяла**
**Галіна УЛІЦЁНАК.**

## «ВАЙШКУНСКІ ПЕЙЗАЖ»



**Не адно пакаленне беларускіх мастакоў у сваёй творчасці звярталася да чароўных пейзажаў Віцебшчыны, да тэмы "Блакітныя азёры" запаведнага краю. Але асобы ўклад унесла група мастакоў, якая ў перыяд адміранння старых вёсак аб'ядналася з мэтай не даць знікнуць невялікай вёсачцы Вайшкуны на беразе прыгожага возера Балдук. Пасяліўшыся тут, яны не толькі не далі "памерці" вёсцы, але і стварылі мноства работ аб гэтым краі.**

**Сярод іх і мастак Віктар Маркавец, чыя выстава "Вайшкунскі пейзаж" праходзіла ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі.**

**НА ЗДЫМКАХ: мастак з Вайшкунаў Віктар МАРКАВЕЦ і яго работа "Бэзавае цвіценне".**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**



*СА СТАРОГА КУФРА*

# ЛЯХАВІЦКІЯ СТРОІ

Ляхавіцкія строі — традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення цэнтральнай Беларусі. Бытавалі ў XIX — пачатку XX стагоддзяў на тэрыторыі Ляхавіцкага, Нясвіжскага і Клецкага раёнаў. Аснову летняга жаночага касцюма складалі кашуля, спадніца, фартух, пояс, гарсэт. Кашулю кроілі з прамымі плечавымі ўстаўкамі, аздаблялі вузкімі паскамі чырвонага натыкання, якія кампанаваліся ў гарызантальныя шлякі, размешчаныя на грудзях, рукавах, плечавых устаўках, адкладным каўняры. У строгім арнаменце амаль адсутнічаў рамбічны і раслінны ўзор. Шырокая, кроеная з 4—5 полак шарсцянкі спадніца (выбіванка, андарак, плацянковая спадніца) вызначалася суладдзем сакавітых разнаколерных (у вясёлкавай гаме) гарызантальных шлякоў, якія чаргаваліся з цёмна-сінім, цёмна-зялёным, бурачковым ці чорным колерам фону. Прасавалася ў дробныя складкі. Фартух шылі з 2 полак кужалю, аздаблялі, як і кашулю. Аднаполкавы фартух шылі са стракатых тканін. Вузкі пояс, тканы геаметрычнымі ўзорамі ў чырвона-зялёным каларыце, завязваўся спераду. Гарсэты цёмна-сінія, зялёныя, чорныя ў выглядзе безрукаўкі з баскай-клінкамі ці накшталт кароткага ліфа з адразной баскай на спіне. Галаўныя ўборы — падвічка, намітка ці хустка, аздобленыя букетамі кветак, зеляніны, гірляндачкай (гафрыраванай разнаколернай паперай, сабранай у веер). Нагрудныя і шыйныя ўпрыгажэнні — пацеркі, тасёмкі, стужкі, абразкі.

Мужчынскае адзенне складалі кашуля навыпуск, пояс і шарачковыя нагавіцы. Галаўнымі ўборамі былі саламяныя капелюшы, упрыгожаныя чырвонымі стужкамі, кветкамі, каласкамі жыта.



Верхняе мужчынскае і жаночае адзенне — сярмяга са складкамі на спіне, кароткая копта з нашыўкамі чорнага аксаміту, блакітны каптан з чырвонымі выкладамі на грудзях і рукавах.

**Падрыхтаваў да друку Дзяніс РАМАНЮК.**

**ВЫДАДЗЕНА Ў ПРАВІНЦЫІ**

# СЛУЦКІ ВОПЫТ

Слуцк добра вядомы сваімі краязнаўчымі традыцыямі. Сапраўдным летапісцам гісторыі горада і яго ваколіц з'яўляўся Рыгор Родчанка. Напружана, мэтанакіравана займаецца краязнаўствам, збіраннем гістарычнай памяці Анатоль Жук. Час ад часу яго артыкулы друкуюцца ў "Мінскай праўдзе". Адно з зацікаўленняў Анатоля Жука — збор мікратапонімаў.

А нядаўна ў Слуцку пабачыў невялікага памеру даведнік "Храналогія слуцкай мінуўшчыны". Брашура адрасаваная ўсім, хто цікавіцца гісторыяй роднага краю. У прадмове да "Храналогіі слуцкай мінуўшчыны" заўважана: "Аўтар упершыню сабраў і выклаў у храналагічнай паслядоўнасці важнейшыя факты і падзеі, што адбываліся на тэрыторыі Случчыны з часоў глыбокай старажытнасці да нашых дзён. Сабраныя разам, яны даюць пэўнае ўяўленне пра ход гістарычнага працэсу ў нашым краі. У "Храналогію слуцкай мінуўшчыны" ўключаны таксама найбольш значныя агульнадзяржаўныя падзеі, якія істотна ўплывалі на становішча спраў на Случчыне".

Безумоўна, гэта заўважана і ў прадмове, не ўсе адрэзкі часу ў аднолькавай ступені падрабязна паказаны ў "Храналогіі слуцкай мінуўшчыны". Як прыклад — шэсць дат з канца V стагоддзя да нашай эры да XII стагоддзя. Але гэта і зразумела. У роўнай ступені існуюць крыніцы, падставы для вызначэння біяграфіі краю. Затое ўжо з пачатку знаёмства з "Храналогіяй..." адразу заўважна, што Анатоль Жук выбірае даты выключна "слуцкія", не падганяе пад абсягі слуцкай біяграфіі нешта агульнае, што з'яўляецца адлюстраваннем усебеларускай, айчыннай гісторыі.

Аўтар "Храналогіі...", здавалася, павінен быў бы быць вельмі ўважлівым і да першых упамінанняў у гістарычных дакументах населеных пунктаў Случчыны. Акалічнасць істотная, калі мець на ўвазе вялікую культурна-асветніцкую работу, што праводзіцца ў горадзе і раёне. У вёсках, здавалася б, вонкава нецікаўных да гісторыі, людзі жадаюць ведаць дзень нараджэння паселішча. І мо менавіта праз "Храналогію"... Анатоля Жука, выданне якой ёсць сёння ў кожнай слуцкай бібліятэцы, успомнілі б землякі не толькі пра 520-годдзе Грэска ў 2000 альбо пра які іншы юбілей. Але ў гэтым накірунку, калі не лічыць грэскую згадку, краязнаўца крыху сябе і ашчаджае, супыняе. Відавочна, і самому даследчыку вядомыя многія падставы, пазнакі для вызначэння дня нараджэння многіх слуцкіх вёсак. Шкада, што гэтая частка гісторыі ў асноўным абыдзена ўвагай.

Імпануюць падыходы Анатоля Жука да выкладання сучаснай гісторыі. Складальнік "Храналогіі..." не забыўся і пра першую сесію раённага Савета дэпутатаў дваццаць другога склікання, але ж і нагадаў пра адкрыццё першага прыватнага магазіна ў Слуцку, пра пачатак прыватызацыі дзяржаўнага жыллёвага фонду ў Слуцку. І тым самым засведчыў, што гісторыя цікавая ўсімі сваімі праявамі, патрэбная і карысная ў сваёй цэласнасці.

"Храналогія слуцкай мінуўшчыны" — безумоўна, толькі пачатак, подступы Анатоля Жука да сур'ёзнай распрацоўкі краязнаўчай праблематыкмі. Няма ніякіх сумненняў, што з цягам часу менавіта Анатоль Жук, падсумаваўшы і абагульніўшы свае краязнаўчыя росшукі, выдасць выдатную, шырокую кнігу пра Случчыну.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# ПЕСНЯ НАСТРОЙ СТВАРАЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).**

### 6. СВЯТЫ, БУДНІ, УСПАМІНЫ

Гэтая вясна ў Мінску багатая на розныя святы і фестывалі. У іх мностве не патанула, не растварылася V гарадское свята харавой песні, якое праходзіла ў нашай філармоніі. Даўно не было падобнага фэсту, арганізаванага прафесарам В. Роўдам. Фэст атрымаўся відовішчны і гучны. Цэлы вечар выступалі толькі дзіцячыя хары, іх было адзінаццаць; гледачы знаходзіліся ўвесь час як бы ў іх акружэнні — увесь вечар адусюль (са сцэны, з залы, з бельэтажа і з балкона) ліліся спеўныя дзіцячыя галасы, якія часта зліваліся ў магутную гукавую плынь. Гучала ў асноўным класіка. Заключным акордам свята стала песня Дунаеўскага "Ляціце, галубы..." ў выкананні зводнага хору пад кіраўніцтвам В. Роўды. Але агульны трыумф складваўся з даніны поспеху асобных хароў, вядучых школьных хароў сталіцы, у тым ліку і вядомай "Дружбы".

Калі на сцэне выступаў хор Таццяны Валошынай, я лішні раз пераканаўся, што маё параўнанне яго з магутнай жывой клумбай хрызантэм — даволі ўдалае: галоўнае тут не светла-бэзавае ўбранне харыстаў, а іх тонкі спеўны водар, водар музыкі і паэзіі, паяднанай, гарманічна злітай хорам.

І калі прафесар Роўда пасля канцэрта на святочнай сцэне цалаваў руку Таццяне Валошынай, як і ўсім дамам-дырыжорам, міжволі думалася, што яе чуйная дырыжорская рука заслужыла павагі і прызнання "генералісімуса" харавога мастацтва (гэтак аднаго разу В. Роўду назваў Уладзімір Шэліхін). Бо гэтая далікатная рука ўмее ўзнімаць душы людзей над будзёншчынай, умее чарадзейна пераносіць іх у вышэйшыя сферы быцця. Бо Таццяна Віктараўна — асоба, для якой нават у час, калі матэрыяльнае ці мала дзе бярэ верх над духоўным, галоўнае — не браць, а аддаваць, дзяліцца невычэрпным багаццем трапяткой душы.

Прыгадаліся і словы яе дачкі Аксаны, якая з такім захапленнем, я сказаў бы, нават з натхненнем гаварыла пра маці як пра ўзор чалавека, пра унікальную асобу, носьбітку такіх высокіх якасцяў, як мудрасць, уменне трымацца ў любых сітуацыях, прыходзіць на дапамогу, аддаваць энергію, якой на ўсіх хапае.

Мяне прыемна здзівіла, што, калі я запытаўся ў Таццяны Віктараўны пра яе хобі, на першае месца яна паставіла занятак з любімымі ўнучкамі — Волечкай ды Ірынай (адной сем гадкоў, другой — два). Потым загаварыла пра чытанне гістарычных раманаў (асобае месца тут займае Г. Сянкевімч), пра захапленне гармоніяй паэзіі Аляксандра Пушкіна і Адама Міцкевіча. Потым яна сказала асабліва адметнае: "Кожную вясну люблю адкрываць для сябе цуд адраджэння прыроды: як на яблыньцы ўзнікае такое мноства кветачак, пялёсткаў? Чаму так цудоўна пахне лясны ландыш?"

Я ўспомніў, што яе харысты ў песнях думаюць. Цяпер я знайшоў гэтай з'яве тлумачэнне: зачараваны настаўнік сам зачароўвае, а зачараваных вучняў хутчэй можна навучыць быць непадобнымі на ўсіх.

Зусім выпадкова я даведаўся, што Таццяна Валошына шмат што ўмее, што на лецішчы яе вельмі любяць расліны, таму добра растуць, калі яна ля іх шчыруе. І што яе паслухаецца машына, калі яна сядзе за руль. Пытанне толькі: дзе ўзяць машыну?

Яшчэ я ведаю: Таццяна Валошына часта ўспамінае сваё дзяцінства, юнацтва, сваіх родных — матулю, бацьку, любіць экскурсы ў мінулае, калі ў пакоі адна. Чалавекам з тонкім гумарам быў бацька, умела карыстаўся народнй мудрасцю, ведаў процьму прыказак і прымавак. Мама была працаўніца. Вельмі любіла музыку і часта прасіла Таццяну запісаць словы любімых песень. І цяпер варта пачуць любую з іх — цяжка стрымаць слёзы. "Гэта правільна кажуць, — разважае Таццяна Віктараўна, — што жыццё чалавека можна падзяліць на дзве часткі: з мамай і без яе. Наша любоў была сапраўды бязмежная".

Няўмольна хутка ідзе час. На зямлю ападаюць то пялёсткі, то лісты, з хмараў сыплюцца то дажджынкі, то сняжынкі. То вятры праносяцца над зямлёю, то ўсталёўваецца цішыня. Людзей клічуць справы. Не кожны чалавек схільны азірацца на сваю дарогу, задумвацца пра тое, чым жыве яго душа — прагай нажывы ці любоўю да бліжняга і што ён сее ў душах людзей, найперш — у дзіцячых душах. Але, на шчасце, ёсць людзі на цудоўнай і грэшнай зямлі няўрымслівыя і неабыякавыя да таго, што адбываецца навокал і ў душы, якія свае ўчынкі, сваю сутнасць звяраюць з паняццямі дабра, хараства, любові. Прынамсі, такая Таццяна Валошына.

**Васіль ЖУКОВІЧ.**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.



Газета набрана, зверстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 813.
Падпісана да друку 18. 05. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.